# ПАШТОВАЯ СКРЫНКА.

**Вучню.** Допіс „Няма сувязі з настаўнікамі" — ня пойдзе. У ім ня відаць якой дапамогі вы хацелі ад настаўнікаў і ці падымалі вы аб гэтым пытаньне на школьным савеце. Няхай форпост абгаворыць якая патрэбна яму дапамога і потым гэтыя прапановы вынясе на шк. савет.

**Кастрыцкаму, З.** Пытаньне аб дрэнных паводзінах некаторых піонэраў у школе трэба паставіць на сходзе форпоста. Допіс—ня пойдзе.

**Амельянюку. В.** Твае допісы: „Недахоп трэба зьнішчыць", „Вучымся і працуем"—ня пойдуць. Калі ў вас у школе зусім не распаўсюджваецца дзіцячы друк, то аб гэтым трэба ўзьнімаць пытаньне на Вучкоме ці сходзе вучняў школы альбо напісаць у насьценную газэту. Ты пішаш, што сярод піонэраў праводзіцца выхаваўчая праца, маецца бібліотэка, а ў чым конкрэтна яна выяўляецца, ты ня пішаш. Ніколі ня трэба брацца ў адным допісе апісаць усю работу школы, трэба апісаць адну частку работы, але дакладна, тады ён будзе цікавым і для другіх.

**Клянку. В.** Ты ў сваім допісе „Зімовая праца атрада" зусім не асьвятліў работы атрада. Пішы больш падрабязна, а не такімі маленькімі допісамі.

Ты пытаешся ці плаціць рэдакцыя ганарар за кожны надрукованы допіс?

Ня плаціць, але актыўным дзяткорам часам замест ганарара выпісваецца часопіс „Б. П.".

**Валодзіну.** Квіткоў для збора падпіскі на часопісь „Бел. Піон." Выдавецтва нікому ня высылае. Падпіску ты можаш зьбіраць і бяз квіткоў пасьля чаго адрасы і грошы падпісчыкаў трэба здаць на пошту.

Твае апошнія допісы ў часопісі зьмешчаны ня будуць. Ты не бярыся адразу апісаць усю працу школы і атрада. Пішы пра асобныя моманты сабраўшы цікавыя факты і лічбы.

**Сімкіну, З.** Аб выніках піонэрскай конфэрэнцыі—ня пойдзе. Якія пастановы вынесены, ты якраз і не напісаў. У такіх разох лепш за ўсё высылаць у рэдакцыю ў дадатак да допіса і пратакол.

**Файтліну Ф.** Допісы: „Мы рыхтаваліся дарэмна", „Форпост не працуе"—ня пойдуць. Дробныя факты. Пішы ў насьценную газэту.

**Цыркелю, Н.** „Комсамол—наш правадыр"—ня пойдзе. Лепш напішы як працуе ваш форпост. Больш падавай фактаў, а не агульных слоў. Верш напісан кепска. **Б. Д. Піонэру** з Пясочнага, **Лістку. Крайку, Насьце Калядзе. Савічу Р, Л. Фрадкіну Бародка. І. Астроўскаму. Я.**—Вашы допісы накіраваны ў ячэйку, а некаторыя ў Райбюро ЮП, для прыняцьця належных захадаў па зьнішчэньню недахопаў у рабоце вашых атрадаў.

**Зэлькінду Яфіму.** Вершы „Пажаданьне вучням" і „Вялікія дзялішкі" да друку не падыходзяць. Справа ў тым, што яны вельмі шурпаты, ня гладка напісаны, хоць і досыць добры маюць зьмест. Вершы табе не ўдаюцца. Другі раз пішы лепш проста, допісам.

**Астапу Верасу.** Той факт, што адзін хлопец абазваў другога „буржуем" яшчэ не дае матэрыялу для апавяданьня. У тваім-жа апав. толькі аб гэтым і ўпамінаецца. Прачытай лепш уважна апавяданьні ў часопісі і ты пераканаешся сам, што тваё апавяданьне не цікавае.

**Эму.** Вершы зьмясьціць ня можам. У іх кульгае мастацкі бок. Вось паглядзеце:

... Наш працоўны люд сялянскі
Скінуў тоўстых брухаў ціск паганскі ..

І цяжка чытаецца і ненатуральна, залішне штучна выходзіць. Такіх радкоў у вас шмат.

**Крайку А.** Вершы раім пісаць. Тыя, што ты прыслаў, яшчэ друкаваць нельга. Слабаватыя, больш чытай.

**Мінцэвічу А.** Верш „Беларусь" напісаны нішто-б сабе—граматна і гладка. Але-ж справа ў тым, што ў ім ёсьць перапевы з Коласа і Купалы. Трэба старацца апісаць свой край нановаму, ня так, як ужо аб ім пісалася.

**Кручкову Я.** Вершы ў цябе не ўдаюцца. Пісаць табе цяпер ня раім, пакуль не аўладаеш граматай.

**Мініну П.** Верш „На прастор" скарыстаем.

**Базылю Д.** Апавяданьне „Давялося" ня пойдзе, нічога цікавага ў ім няма.

**Аземшу.** Верш „БССР" скарыстаем.

**Вярбовічу.** Апавяданьне „Захварэла" ня мае цікавага зьместу і дрэнна пераказана. Друкаваць нельга.

**Лапотку В.** „Апавяданьне дзядзькі" аб наступленьні—рэч цікавая, толькі-ж яно перададзена дрэнна. Пастараемся скарыстаць.

**Пукалу У.** „Сухое лісьцё" напісаць табе не ўдалося. Ды й наогул гэта вельмі цяжкая для цябе тэма. Бяры больш жыцьцёвыя, бытавыя тэмы.

**Вясёлку А.** „У фабзавучы" досыць падрабязна перадае зьмест працы ў майстэрні. Але-ж гэта не апавяданьне, а нарыс аб невядомай майстэрні. Ня пойдзе.

**Бунтару Я.** Пра „Сёму-сірату" ты напісаў няўдала. Апавяданьне не захоплівае сабой, чытаецца нудна, няма апрацоўкі, узяты толькі адзін момант, апавядае дзед унуку, пра тое, што яго бацька пайшоў на барыкаду і адтуль ня прышоў. Гэта для апавяданьня мала.

## ЗЬМЕСТ.




Рэдколегія: **Г. Брыгневіч, С. Жураўскі, М. Мамчыц, А. Пякарчык, А. Якімовіч.**

Адказны рэдактар **А. Пякарчык.**

Да змаганьня за справу працоўных, будзь гатоў!

# БЕЛАРУСКІ ПІОНЭР

**УМОВЫ ПАДПІСКІ:**
На 1 месяц . . . . — р. 20 к.
„ 3 „ . . . . — р. 60 к.
„ 6 „ . . . . 1 р. 20 к.

ДВУХТЫДНЁВАЯ ДЗІЦЯЧАЯ ЧАСОПІСЬ. Орган ЦК ЛКСМБ і НАРКАМАСЬВЕТЫ БССР.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
МЕНСК,
Комсамольская, 25.

**№ 24** **СЬНЕЖАНЬ** **1927 г.**

## „Беларускаму Піонэру“ да яго юбілею.

Кастрычнікавая рэволюцыя, як рэволюцыя социяльная, азначае рэволюцыю і ў экономіцы, і ў культуры, і ў быту.

Пасьля Кастрычніка працоўныя Савецкага Саюзу пачалі будаваць новае жыцьцё. Для гэтае работы патрэбны новыя людзі, людзі, у якіх самым грунтоўным будзе тое, што ўсё іх асабістае жыцьцё будзе цалкам падуладна інтарэсам усёй грамады.

„Беларускі Піонэр“ працуе над выхаваньнем дзяцей, над падрыхтоўкай зьмены Комсамолу. Няхай вынікам яго работы будзе рост новых людзей. Хай выхаваньне гэтых новых людзей з піонэраў будзе яго грунтоўнай задачай і ў далейшым.



тав. Галавач.

*Нам. сакратара* ЦК ЛКСМБ П. ГАЛАВАЧ.

## Органу дзіцячага руху і думкі.

Аддзел Друку ЦК КП(б)Б вітае піонэрскую часопісь „БЕЛАРУСКІ ПІОНЭР“ з 3-гадовым юбілеем.

„Беларускі Піонэр“ на працягу трох гадоў правёў вялізарную выхаваўчую працу сярод піонэраў і нашай школьнай моладзі.

Піонэры-юнкоры, лік якіх з кожным нумарам павялічваецца, іх праца ў часопісі робіць „Беларускі Піонэр“ цікавым, жывым органам дзіцячага руху і думкі.

За ПАВЯЛІЧЭНЬНЕ юнкораўскай рады, ЗА ПАШЫРЭНЬНЕ ЧАСОПІСІ сярод узрастаючай моладзі—нашай будучай зьмены!

АДДЗЕЛ ДРУКУ ЦК КП(б)Б.

# Маё прывітаньне „БЕЛАРУСКАМУ ПІОНЭРУ“.



Народны Камісар Асьветы БССР т. Баліцкі.

„Беларускі Піонэр“ пачынае выдавацца ужо чацьверты год. За гэтыя тры гады ён згуртаваў наўкол сябе тысячы піонэраў і дзяцей, якія стала чытаюць часопіс. Але найбольш важна гэта тое, што сотні дзяцей, у „Піонэр“ пішуць. Пішуць апавяданьні, вершы невялічкія артыкульчыкі. Часопіс „Піонэр“ становіцца сапраўды дзіцячай, піонэрскай часопісьсю. Калі раней для дзяцей пісалі бадай што ня выключна дарослыя, дык цяпер ужо пішуць дзеці, падросткі, і добра пішуць. Можна спадзявацца, што некаторыя з падросткаў і дзяцей маюць здольнасьці, каб з іх паступова выпрацаваліся пісьменьнікі. Ад таго, што пішуць дзеці, „Піонэр“ набывае ўсё больш і больш выразны характар дзіцячай піонэрскай часопісі. Ён стаў БОЛЬШ ЗРАЗУМЕЛЫМ, БОЛЬШ БЛІЗКІМ ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ і падросткаў-піонэраў. Дрэнна толькі тое, што яшчэ да гэтага часу ня ўсе дзеці чытаюць „Беларускі Піонэр“, ня ўсе школы, і ня ўсе піонэрскія атрады яго выпісваюць. За гэтую справу павінны ўзяцца ўсе піонэр-павадыры і ўсе настаўнікі, каб „Беларускі Піонэр“ выпісваў кожны піонэрскі атрад і кожная школа. Піонэр-павадыры і настаўнікі разам з дзяцьмі павінны колектыўна чытаць „Беларускі Піонэр“, разьбіраць, аб чым у ім пішуць і як пішуць. Настаўнікі і піонэр павадыры павінны дапамагаць дзецям пісаць у „Беларускі Піонэр“. Зрабіць „Беларускі Піонэр“ УСЕАГУЛЬНАЙ ДЗІЦЯЧАЙ ЧАСОПІСЬСЮ,—вось задача „Піонэра“ на чацьверты год яго працы. „Беларускі Піонэр“ зьяўляецца часопісьсю Ленінскага Комуністычнага Союзу Моладзі і Ленінскай організацыі Юных Піонэраў, пад сьцягам якіх павінны вухоўвацца ўсе дзеці.

А. БАЛІЦКІ.

## „Беларускаму Піонэру“.

*„Юнгер Піонэр“ ад імя яго шматлікавых чытачоў перадае гарачае прывітаньне „Беларускаму Піонэру“ ў дзень яго юбілею.*

*Нашы пажаданьні:*

*Яшчэ шырэй прасунуцца ў масы дзяцей, набыць новыя тысячы чытачоў і таварышоў.*

*Яшчэ з большым посьпехам выконваць справу Ленінскага выхаваньня дзетвары.*

*Рэдакцыя газэты* „Юнгер Піонэр“.

**На чацьверты год наша заданьне: няма ніводнага піонэра і вучня, які ня чытае свае часопісі, не пашырае яе сярод усіх дзяцей.**

# Дарагому юбіляру.



Т. Адзінец.

*Часопіс „Беларускі Піонэр“ радзілася ў дні высокага ўздыму актыўнасьці масы дзяцей. Яна была ўвесь час першым памоцнікам Цэнтральнаму Бюро Юных Піонэраў. Часопіс расла разам з піонэрскай організацыяй. Яна была заўсёды наперадзе,* **дапамагала ў цяжкай працы піонэрскім атрадам і школам.**

*„Беларускі Піонэр“ лепшы таварыш, дарадчык у жыцьці і выхаваньні дзіцячай масы ў духу камунізму.*

*Пажадаем „Беларускаму Піонэру“* **яшчэ больш аб'яднаць вакол сябе дзіцячую масу.**

*Пажадаем, каб „Беларускі Піонэр“ пралез у кожную вёску, пасёлак, мястэчка, на завод, фабрыку, у кожную сям'ю рабочага і селяніна.*

*Пажадаем „Беларускаму Піонэру“ стаць яшчэ лепшым організатарам дзяцей па ўдзелу ў працы нашых старэйшых братоў—партыі і комсамолу.*

*У 3-гадовы юбілей — гарачае таварыскае прывітаньне „Беларускаму Піонэру“ і яго карэспондэнтам і чытачом!*

*Старшыня ЦБ ЮП* **М. Адзінец.**

# Прывітаньне ад „Чырвонай Зьмены“.

У нашыя дні, дні 10-гадовых юбілеяў, трохгадовым юбілеем мала каго зьдзівіш.

І разам з тым, ня дзеля ўрачыстага выпадку, ня дзеля прыгожага слаўца *з асаблівым, шчырым задавальненьнем пішацца прывітаньне часопісі „Беларускі Піонэр“.*

Трохгодзьдзем мала каго зьдзівіш, а ўсё-ж такі за тры гады „Беларускі Піонэр“ прайшоў шлях калі не дзесяцігодзьдзя, *дык ва ўсякім выпадку шлях шэрагу год.*

Ад першых баязьлівых спроб падыходу да незнаёмага спачатку дзіцячага чытача, з асаблівымі запатрабаваньнямі, успрыняцьцямі — „Беларускі Піонэр“ *шчыльна, непадзельна ўрос, увайшоў у піонэрскае дзіцячае асяродзьдзе, зрабіўся неаддзялімым ад дзетвары.*

Тыраж „Беларускага Піонэра“ раўняецца (у тысячах) колькасьці „аддрукаваных“, пражытых год.

І тая жалезная ўпартасьць, з якой заваёўваецца кожны лішні дзесятак чытачоў, тая настойлівасьць, якую праяўляе рэдакцыя ў справе паляпшэньня часопісі—*лепшае засьведчаньне далейшага паляпшэньня і ўзмацненьня нашага слаўнага маладога газэтнага брацішкі—часопісі „Беларускі Піонэр“.*

Гарачае прывітаньне юбіляру ад юнкораў і рэдакцыі газэты „Чырвонае Зьмены“.

Рэдактары „Чырвонай Зьмены“ **А. Бараньнікаў і А. Курцік.**

# Пра малога Апанаса

*Верш А. ЧУРЫЛАЎЦА.*

*Малюнкі Я. КАШКЕЛЯ.*



За гарамі, за
лясямі,
Недалёка так
ад нас,
Жыў маленькі
Апанас.
Сам лядашты
і мізэрны,
А да працы—
як агонь!

Рады бацька за яго.
Ён майструе, ён працуе,
А ў кампаніі сваёй
Ён заўсёды старшынёй.
Гнёзда спорвае з хлапцамі,
Крыўдзіць кошак і сабак.
А часамі і ня так:

# ЧЫТАЧЫ І ДЗЯТКОРЫ АБ ЧАСОПІСІ

*(Нашы бліжэйшыя супрацоўнікі).*



К. Шавель.

## Часопісь чытачом падабаецца.

Ня вельмі даўно часопісь „Беларускі Піонэр“ чыталі ў нашай школе 2—3 вучні. Цяпер яна больш пашырана.

Чытачом падабаюцца вершы. Асабліва падабаюцца вершы Алеся Розны („Я вясну спаткаў“, „Летнім вечарам“).

Па думцы аднаго чытача— „Беларускі Піонэр“ цікавая часопісь для чытаньня ў часе адпачынку. У вольны час цікава адгадваць загадкі і задачы.



С. Грахоўскі.

Па думцы другога чытача „Б. П.“ дае на сваіх старонках занятныя апавяданьні. Некаторыя вучні жадаюць, каб у „Б. П.“ быў аддзел шашак і шахматаў. „Беларускі Піонэр“ даў нам шмат цікавых ведаў у аддзеле „Прырода—Навука—Тэхніка“. Некаторыя веды далі артыкулы аб рэволюцыі 1917 года („Піонэру аб Кастрычніку“, „Кастрычнік на Беларусі“, „Перамога Рэволюцыі“).

Адзін нумар часопісі „Беларускі Піонэр“ прачытвае да 10-х вучняў.

**Аземша Алесь, М. Белякоўскі.**

## Мы па ёй вучымся.

Убачыў я часопісь зусім нечакана ў чытальні. Яна мяне так зацікавіла, што я парашыў яе выпісаць. Але першыя гады часопісь ня ў поўнай меры здавальняла запатрабаваньні піонэраў і вучняў: выходзіла рэдка і неакуратна.

Наступае 1927 г. Часопісь пачала выходзіць два разы ў месяц, яна перажыла час спазьненьня выхаду, і нашы піонэры яшчэ больш зацікавіліся „Беларускім Піонэрам“. Яны зразумелі, што часопісь—памоцнік у іх працы і карысна для заняткаў у час адпачынку. Дзякуючы часопісі, са старонак якой я пазнаў мэты і заданьні піонэрскай організацыі, *я стаў піонэрам, як і некаторыя мае таварышы.* Таксама дзякуючы часопісі *я стаў дзяткорам,* навучыўся пісаць у часопісь, да чаго *і заклікаю ўсіх дзяцей.*

Чытаюць „Беларускі Піонэр“ у нашым атрадзе амаль што ўсе, але ня ўсе выпісваюць. Падпішчыкаў на часопісь сярод піонэраў і вучняў *налічваецца 20 чалавек.* Але гэтага яшчэ мала. Атрад павінен паставіць сабе заданьнем: *„Кожны піонэр чытае і выпісвае сваю часопісь „Беларускі Піонэр!“* Трэба організоўваць гурткі чыткі часопісі.

У дзень 3-гадовага юбілею, шчыра вітаю і жадаю, каб да 1928 г. ўсякі піонэр і вучань чытаў сваю часопісь „Б. П.“.

**В. Амяльянюк.**



А. Розна.



М. Белякоўскі.

## Мы яе любім.

„Беларускі Піонэр“ стаў любімаю часопісьсю ўсіх дзяцей. Калі ў нас раней у мястэчку выпісваліся два экзэмпляры, то цяпер мы маем 15.

Мы яе чытаем дома, у школе і ў атрадзе.

Трэба, каб у часопісі больш друкавалася артыкулаў аб працы дзяткораў і аб акцябратах.

**П. Шкадарэвіч.**



П. Шкадарэвіч.

## Аб сваёй часопісі.

Неяк неспадзявана папалася мне ў рукі першы раз часопіс „Беларускі Піонэр“ № 2 за 1925 год.

Перагледзеў я яе—спадабалася. Ды як было не захапіцца ёю, калі тут я першы раз убачыў допісы, малюнкі, апавяданьні аб жыцьці дзяцей?!

І тады-ж напісаў першы допіс—„Трэба ўсім быць піонэрамі“, які зьмясьцілі ў № 4 за 1925 г. І вось з таго часу я і трымаю цесную сувязь з сваёй роднай часопісьсю. Яна для мяне і для ўсіх нас зьяўляецца дапамогай у штодзеннай працы і жыцьці.

Матар'ял часопісі самы разнастайны.

У ім у вольны час пачытаеш досыць цікавы нарыс, апавяданьне, у якіх так яскрава абмалёўваецца быт дзяцей. Тут і допісы піонэраў, і творчасьць самых чытачоў (Розна, Шавель і інш.) і старэйшых пісьменьнікаў. Жыцьцё замежных дзяцей.

Дык як-жа, браткі мае, яе ня любіць, гэтае часопісі? Я думаю, што маю прыхільнасьць да часопісі падзяляюць усе тыя, хто яе акуратна чытае і карыстаецца ёю, а хто яшчэ з дзяцей ня чытае часопісі, таму ад душы раю падпісацца на часопіс і пашыраць яе.

Піонэр **Васілёк.**

## Маладой часопісі.

*Я пашлю свой уласны допіс—*
*Як атрад жыве цяпер—*
*У нашую мілую часопісь*
*„Беларускі Піонэр“*
*Люблю часопісь маладую,*
*Знойдзеш ты усё у ёй:*
*Жарты, вершыкі, малюнкі*
*І уласны допіс свой.*
*Хто жыве у цёмнай хаце,*
*У цёмнай вёсцы за гарой,*
*Дзе мала сонейка дзіцяці,*
*Дзе гора, беднасьць з цемнатой,—*
*Давайце выпішам часопісь—*
*Яна асьвету нам нясе,*
*Яна сабою заахвоціць...*
*Давайце-ж выпішам усе!*

Піонэр **Азярыцкі А.**

## Пабольш сьмеху.

На старонках „Беларускага Піонэра“ ёсьць аддзел „Падумай“. У гэтым аддзеле друкуюцца розныя жарты, рэбусы, шарады, задачы і загадкі.

Праўда, гэта ўсё друкуецца надта ў малым ліку. Піонэры гэтым аддзелам надта цікавяцца, бо ён дае піонэру ўсё тое, чым піонэр можа заняцца ў вольны ад працы час. Піонэры надта жадаюць, каб павялічыць гэты аддзел.

**Ю. Маркоўка.**



А. Пякарчык (*рэдактар часопісі*).

## 2. Пра малога Апанаса.

Выб'юць вокны Даміцэлі,
Ці ў калодзеж вечарком
Накідаюць цэлы лом.
Ці на сад старога дзеда



Аляксея наляцяць...
Плача дзедка цэлы дзень
Пасьля гэтакіх гасьцей
Самавольнікаў-дзяцей.
Так жылося-б, так вялося-б,
Каб наступная бяда
Не залецела сюда.
А было, дык гэта проста
(Апанасаў большы брат
Ï цяпер за гэта рад).

# Роднай часопісі*)

*З першых дзён я бязьмерна цябе пакахаў,*
*Як кахае працоўны краіну сваю...*
*Твой яскравы прамень запаліў,*
*Узбудзіў і асьвятліў*
*Дзіцячую думку маю...*
*Ідзі-ж і далей па гэтым прыгожым шляху,*
*Па шляху дзіцячых мас выхаваньня,*
*Па шляху згуртаваньня іх пад свой сьцяг,—*
*Ты пакажы ім шлях*
*Дзяткораўскага аб'яднаньня...*
*У дзень гадавіны твайго існаваньня,*
*У шчасьлівы дзень сьвята твайго,*
*Прымі маё шчырае прывітаньне*
*І лепшае пажаданьне*
*Ад сэрца майго!*

*Твой*
*дзяткор*
**Міх. Вярнікоўскі.**



А. Малевіч.

# Часопісь надта зацікавіла.

Часопісь „Беларускі Піонэр“ я чытаю з самых першых часоў яе выхаду. Першы раз, калі я ўбачыў часопісь, яна мяне надта зацікавіла. Дзіцячыя апавяданьні, малюнкі надта спадабаліся мне, і я ня мог адарвацца ад іх. Некаторыя апавяданьні я перачытваў па некалькі разоў—ужо так цікавы яны былі для мяне!

Пазьней я стаў ня толькі яе акуратным чытачом, але-ж і такім самым акуратным дапішчыкам. Яна навучыла мяне пісаць допісы, якіх я раней пісаць ня ўмеў.

„Беларускі Піонэр“ ёсьць сапраўдная часопісь дзяцей. Усім тым т.т., якім я даваў чытаць яе, яна надта спадабалася. У выніку ўсяго гэтага мне ўдалося завербаваць каля *дзесяці падпісчыкаў.* Часопісь палюбілі ўсе піонэры нашага атраду.

„Беларускі Піонэр“ шмат дапамог нашаму атраду ў яго штодзённым жыцьці.

У далейшым, памойму, неабходна павялічыць „паштовую скрынку“,—у часопісі яна займае нязначнае месца і ня можа задаволіць чытача.

У часопісі мала зьмяшчаецца здымкаў з жыцьця школ і атрадаў, што надта цікава. Больш рабіць конкурсаў на лепшы малюнак і інш.

**Уладзімер Сянькоўскі.**



Г. Брыгневіч (член рэдколегіі).

*) Друкуецца без папраўак.

# Беларускаму піонэру *).

Ад дзеда і ўнука.

*Дзядок, ці помніш тыя дні,*
*Калі у нас круціла завіруха?*
*Ці помніш ты, як да цябе прышлі*
*Палякі ў хату і моцна цябе білі?*
*Дзядок, ці помніш ты:*
*Ня раз цябе палякі катавалі...*
*За што? За тое, што твой сын*
*Быў бальшавік, дык часта цябе*
*дралі...*
. . . . . . . . . . . . . . . .
*Усё прайшло, цяпер ужо ня тое.*
*Сягоньня я сьвяткую юбілей!*



А. Якімовіч (член рэдколегіі).

*Са мной, дзядок, ты будзеш сьвяткаваць*
*Вялікі юбілей часопісі дзяцей.*
*Хоць ты стары, але ты нам паможаш.*
*Я малады, ня ведаю ўсяго.*
*Мы удваёх ўсе перашкоды зможам,*
*Наладзім лепшае жыцьцё.*
*Сьвяткуйце-ж, дзеці, ўсіх рабочых і сялян!*
*Я піонэр, дзядок мой комуністы,—*
*Шлём удваіх мы юбілею прывітаньне!*
*Хай і далей часопісь „Піонэр“*
*Прыгожай кветкай для ўсіх зьзяе!*

*Пісаў піонэр* **Язэп Есьман.**



Л. Скарабагатаў.

# Прасоўваем часопісь у дзіцячыя масы.

*(4-ты чыгуначны атрад пры станцыі Менск).*

Нядзеля... Збор атраду. Піонэры сабраліся і цесным колам паселі навокала стала. З мейсца падымаецца член рэдакцыйнай колегіі, піонэр *Есьман.* Ён з захапленьнем і шчырасьцю апавядае аб надыходзячым 3-гадовым юбілею часопісі „Беларускі Піонэр“. Піонэры слухаюць яго ўважліва. Пасьля яго кароткай прамовы па яго-ж прапанове вынесьлі пастанову „ўсім піонэрам, па магчымасьці, падпісацца на часопісь“...

Зразу-ж пачалі піонэры прыносіць грошы да павадыра на выпіску, але ня толькі на гэтым абмежаваліся... Не. У пастанове гаворыцца аб тым, што ўсе піонэры павінны распаўсюджваць сваю часопісь і сярод астатніх дзяцей. І гэтага мы дасягнем. **В. Янкелевіч.**

*) Друкуецца без паправак.

## 3. Пра малога Апанаса.



Апанас—малы
хлапчына—
Толькі ведае
цяпер
„Беларускі Піонэр“.
Брат прыкінуў
адну грыўню—
(Ён падпісчык
„Вёскі“ быў)—
І ад жытняе сяўбы
Да вясновае пары
„Б. П.“ хлопцу падарыў.
Апанас пракінуў вокам
Першы нумар, пагартаў...
„Э-ге!“—справа тут ня так...
Стаў ён моўчкі разважаць.
Трэба хлопцаў заклікаць.

# З МІНУЛАГА.

*(Урыўкі).*

**„Беларускаму піонэру“ прысьвячаю.**



Ю. Таўбін.

Я станавіцца стаў сталей штогод.
Яшчэ нядаўна з хлопцамі гарланіў,
А сёньня, як і ўсе, іду ў паход,
Іду ў жыцьцёвае змаганьне.
Шаснаццаць жыў...
Яшчэ так многа жыць!
Яшчэ так многа радасьці спаткаю...
Сягодня зноў хачу я ўспомніць рубяжы
Свайго жыцьця і краю.

* * *

Мой палісад засыпаў пухкі сьнег,
Даўно, даўно асыпаліс жасьміны.
Раяцца ў думках дзіўных у мяне
Урыўкі ўжо забытых ўспамінаў...
Уральск...
На вуліцах шалёны грукат-бой...
Палкі Чапаева імчацца віхрам міма...
Маленькі хлопчык ў форткі прад сабой
Глядзеў вакол наіўнымі вачыма...
Было так дзіўна хлопчыку глядзець
На шумны гул, на тлум, мітусяніну,
На ап'янёных барацьбой людзей,
Што йшлі ў бой. Ня страшна ім загінуць!
І думаў потым хлопчык доўгі час,
Схаваўшыся адзін ў сваёй „нарадзе“,
Аб чым казалі з радасьцю ў вачах
Такія сонечныя дзядзі?..

. . . . . . . . .

Ў трынаццаць год—вясёлы піонэр.
Чырвоны гальштук макам цьвіў на шыі.
Атрад, зьвяно у першы раз мяне
З сям'ёю шумнаю зраднілі...
У лесе ноч... Бурліць вясёлы люд.
Гарыць агонь... Сабраўся вокал лягер...
І процьмы зор нам шлюць салют,
І чырваньню гараць над намі сьцягі...
Хрусьціць гальлё... „Ці скора кіпяток?“
„Гарбата ёсьць!“... „Зацягнем, эй,
картошку!“
І льлецца ўвесь бунтуючы паток,
Хоць юны хор „сказьліў“, напэўна,
трошкі...
Ужо даўно сыгнал на сон
Таўбіў гарніст. Навокал ціш нямая.
А мы сядзім і лапкі сухіх хвой
На вогнішча ў задуме падкладаем.

. . . . . . . . .

А дні ішлі. Было ў мяне ўсяго...
Яшчэ ня час спыніцца мне на моле!
Нядаўна вось пайшоў і новы год
З тае пары, як стаў я комсамолец.
Шляхі вядуць... І дзён віецца ніць,
І я іду з жывіцельным прыветам...
Я стаў поэт (ў двукосьсі можа быць?)
Ну, што-ж, дзякуй і за гэта!..
Кажу сягоньня ўсім і сам сабе:
Пайду туды,
да сьветлай перамогі!
Цяпер ніхто ніколі не саб'е
Мяне з маёй намечанай дарогі.
Ідзём туды...
Ўжо блізкі берагі...
Хай прыдзе бой і злосны шквал
нахлыне.
Пайду тады на новыя страі,
Навёўшы звонка песенныя плыні.

**Юлі Таўбін.**

# 1924—1927.

## *Да юбілею дзіцячай часопісі „Беларускі Піонэр“.*

Дзіцячая часопісь, а разам з ёй і дзіцячая літаратура—як літаратура саміх дзяцей,—гэта зьява, цалкам зьвязаная з апошнім 10-годзьдзем. У папярэдняй дарэволюцыйнай гісторыі дзіцячага друку мы мелі друк выключна для дзяцей, творчасьць саміх дзяцей ня прымалася пад увагу. Большая палова выданьняў для дзяцей зацямняла юныя галовы рэлігійнымі забабонамі. Школьныя бібліотэкі былі запоўнены „жыцьцямі сьвятых“. Уся літаратура была напісана ў расейскай мове.

У нас аб дзіцячым друку ў роднай мове і ўспамінаў не магло быць. Ледзь-ледзь з вялікім горам час-ад-часу выдаваліся невялічкія зборнічкі з прыгожага пісьменства для дарослых, у першую чаргу для нацыянальнай беларускай інтэлігэнцыі. Царскі ўрад быў супроць організацыі беларускага друку. Беларускі друк—гэта друк змаганьня за соцыяльныя і нацыянальныя правы цэлае краіны, больш за іншыя ўціснутай царызмам.

Але затое, як буйна закрасавала літаратурная ніва за апошняе 10-годзьдзе! Колькі новых, сьвежых сейбітаў узышло на гэту ўрадлівую ніву, каб засяваць яе зернем навукі, якое пры ўзрастаньні для сваёй карысьці зжынае працоўны люд.

Роль літаратуры (бязумоўна, рознай: мастацкай, палітычнай, навукова-популярнай і інш.), у справе культурнага ўзросту народу бясспрэчна найвялікшая. Гэта добра ўлічвае Комуністычная Партыя і Савецкая Ўлада, якія так шырока разгортваюць навуку ў вольным Савецкім Саюзе сярод рабочых і сялян. Пашырэньне навукі і культуры наогул, апрача спэцыяльных школ, зьвязана яшчэ ў значнай меры і з друкам.

У Беларусі дзіцячы друк, як і наогул моладзі, вельмі малады. Калі адкінуць невялічкія школьныя хрэстаматы [1]), дык першай крыніцай больш-менш сталага разьвіцьця дзіцячага друку трэба лічыць часопісь „Зоркі“ [2]). Гэта часопісь пакінула пасьля сябе досыць значны сьлед. Яе матар'яламі яшчэ і цяпер карыстаюцца ў пераважнасьці ў дзіцячых садох. Часопісь разьлічвалася на дзяцей культурна адсталых. Матар'яламі для часопісі бадай выключна зьяўляліся розныя апавяданьні і вершы.

Вялікая доля ў супрацоўніцтве ў часопісі належыць нашым пісьменьнікам: *З. Бядулю, Я. Купалу, Я. Коласу, М. Грамыку, М. Чароту.*

Новая плынь у жыцьці дзяцей прынесла з сабой і новыя запатрабаваньні літаратуры. Нараджаецца піонэрыя. Школы цалкам пераходзяць на родную мову. Значна ўзрастае актыўнасьць дзяцей да грамадзкай працы. Гэта і выклікае ў дзіцячую беларускую літаратуру часопісь „Беларускі Піонэр“.

Як нядаўна ўсё гэта, здаецца, было. Аднак, як шмат чаго перамянілася ў справе выданьня часопісі.

Пачатак выданьня часопісі зьвязан наогул з ростам якасьці нашай беларускай кніжкі. Калі мы здалі ў друк першы нумар—прышлося ўсе малюнкі прапускаць праз камень. У Менску ня было ніводнай, хоць-бы нават саматужнай, цынкографіі [3]). Усе клішэ за-

### 4. Пра малога Апанаса.



І пайшла тут пагалоска—
Апанасаўскі загад:
Утвараецца атрад!
Так рашылі, так зрабілі:
Апанас павадыром
І ў прыдатак пяць сяброў,
Як налічны войска склад,
Аб'яднаў сабе атрад!
Так жывуць сабе шчасьліўцы.
Але... ліха-ж гэтаму „але“...

[1]) Цёткі, Чарняўскай ды Некрашэвіча.

[2]) Выдавалася ў 1922—23 г. Наркамасьветы.

[3]) Цяпер іх дзьве: адна ДВБ, а другая газэты „Зьвязда“. Цынкографія—гэта майстэрня, якая робіць з малюнкаў клішэ на цынку. Гэткія клішэ ўстаўляюцца ў гранкі часопісі і так друкуюцца.

казвалі ў Маскве. Але гэта ніяк немагчыма пры выданьні газэты ці часопісі. Бывала, пашлеш у Маскву малюнкі і чакай, пакуль некалі пошта паведаміць аб атрыманьні. А часопісь ад гэтага заместа якога-небудзь студзеня выходзіць у сьвет у сакавіку.

Такое мучэньне прымушала іншы раз зьвяртацца да самае грубое работы малюнкаў—гэта работы на лінолеуме [1]).

Шмат было бяды і з укладаньнем першых нумароў. Зьмест часопісі не абмяжоўваўся пэўным родам літаратуры. Часопісь павінна быць унівэрсальнай: усё, чым цікавяцца дзеці і, у першую чаргу, піонэрская організацыя, трэба было і зьмяшчаць у часопісі. Вопыту ў сяброў рэдакцыі для працы ня вельмі хватала. Усё прыходзілася організоўваць, па некалькі раз абмяркоўваць. І ўсё-ж не задавальняла часопісь! З кожным нумарам імкнуліся ўсё палепшыць ды палепшыць. Мы, бязумоўна, добра ведалі, што палепшыць часопісь так, каб дагнаць у гэтым Маскву, ня зможам: ня хопіць столькі сродкаў і сіл. Аднак, мы пачалі вырашаць пытаньне так, каб з найменшага зрабіць найбольшае. Той, хто ўважна чытае часопісь, бачыць гэта. Мы

## 5. Пра малога Апанаса.

„Як-жа будзем мы галець,
Даражэнькія сябры?“
Апанас стаў
гаварыць.
„Наш курта-
ты ды зусім
Вышаў, бачы-
це, атрад!
Трэ‘ ячэйку
ўтвараць,—
Будзе намі кіраваць!
У мяне ёсьць прапанова:
У часопісь „Піонэр“
Мы зьвяртаемся цяпер.
Хай разважа, хай раскажа,
Што рабіць і як тут быць,
Каб ячэйку прыдабыць.



[1]) Лінолеум—досыць цьвёрдая маса, на якой можна выразаць розныя малюнкі. Гэткая-ж разьбярства можа рабіцца і на дрэве, якое куды цьвярдзей за лінолеум, што прыгатаўляецца штучна.

часта заместа свайго орыгінальнага матар‘ялу зьмяшчаем пераклады з яўрэйскай, украінскай, польскай, расейскай моў. У агульным часопісь па якасьці ад гэтага ня вельмі шмат траціць.

* * *

Не адразу ўдалося заваяваць часопісі дзетвару. Дзетвара неяк усё не асьмельвалася спачатку жыва ўзварухнуцца і прынесьці і сваю пасільную долю працы на старонкі свайго друку. Але ў гэтым больш вінавата, пэўна, гісторыя наша. Беларускі селянін спрадвеку ня лічыўся чалавекам, абзывалі яго крывапійцы-паны „дурным мужыком“. Беларус—гэта самы цёмны, самы неасьвечаны навукай чалавек. Але беларус мае багатую даравітасьць і непараўнальную працавітасьць. Вось гэтую даравітасьць толькі няможна было выявіць, яе царскі ўрад скаваў жалезнымі ланцугамі, замкнуў за дзесяць дзьвярэй, як гаворыцца ў казцы, і паставіў ля гэтых дзьвярэй вартаўнікоў—ураднікаў розных. Ад пакаленьня да пакаленьня ўкаранялася панамі думка, што беларус—гэта дурны мужык.

Дык што-ж талковага і разумнага можа сказаць які-небудзь хлопчык ці дзяўчынка нашай значна цёмнай яшчэ вёскі?—так разважалі шмат якія дзеці даўней.

Але паступова, адзін за адным, паціхеньку, азіраючыся, прыходзілі дзеці з усіх куткоў Беларусі на старонкі свайго друку. Прыходзілі, хто з чым мог. Прыносілі сюды свае радасьці і горасьці, свае дзіцячыя думкі. Болей усяго пісалі пра тое, як адбываецца ў вёсцы піонэрскі рух, як праходзіць вучоба ў роднай мове, як расьце сьвядомасьць сярод бацькоў і дзяцей. Нязграбна, няскладна, мала-зразумелымі каракулямі пісалі нашы першыя корэспондэнты, але пісалі шчыра, пісалі праўду.

Цяпер мы маем з такіх першых корэспондэнтаў ужо дужа граматных людзей. Шмат хто з дзяцей навучыўся і вучыцца грамаце па часопісі і ад таго, што ён піша сам.

Перада мною ўсплывае шэраг такіх дапішчыкаў. Іх імёны ўжо вядомы чытачам: гэта—Шавель, Таўбін, Грахоўскі, Розна, Багун, Белякоўскі... Гэта нашы

сапраўдныя пісьменьнікі і корэспондэнты ад саміх масаў дзетвары, гэта выявіцелі дзіцячых думак і дзіцячага жыцьця ў мастацкай творчасьці. Шмат хто з першых нашых корэпондэнтаў увайшоў ужо у шэрагі сталых літаратурных організацый. Творчасьць саміх дзяцей часта досыць удалая. Кожны новы твор гэтых таварышоў—гэта рост творчай сілы ўсіх дзяцей, гэта ўздым культуры сярод юных грамадзян, гэта рост сьвядомасьці наогул. Бязумоўна, мы не „расхвальваем“ падобных дасягненьняў. Мы павінны вельмі чула адносіцца да росту гэтых новых грамадзян; шмат якія з іх у будучым стануць і вялікімі літаратарамі, вучонымі, і якія атрымліваюць значнае выхаваньне на старонках сваёй часопісі.

Часопісь зьяднала вакол сябе дужа шмат дзяцей. З тых, што яе чытаюць [1]), маецца звыш сотні тых, канвэрцікі якіх кожны дзень атрымлівае рэдакцыя. Шматжа іх зьяўляецца ў рэдакцыю і навочна. Спачатку ўваходзяць баючыся, але аднодва словы і корэспондэнт адчувае сябе зусім, як у сваёй кампаніі. Ён пачынае сьмела аб усім распытвацца, а іншы раз дык і спрачацца, калі рэдакцыя не згаджаецца з поглядам чытача. Аб часопісі цяпер ведаюць амаль усе дзеці—піонэры і школьнікі, якія наогул цікавяцца дзіцячым друкам.

Як школа, так і піонэр-атрад могуць шмат чаго цікавага і карыснага знайсьці цяпер у часопісі для сваёй працы. У далейшым самае галоўнае—гэта павялічыць выданьне, павялічыць лік падпішчыкаў і супрацоўнікаў.

**А. Якімовіч.**

1) Па няпоўных вестках, часопісь чытаюць прыблізна тысяч 30—40 дзяцей.

### 6. Пра малога Апанаса.

Справа доўга не чакала:
Хлопцы селі ўшасьцярых
І заметка—ў
адзін міг!
— Так і так, і
так да гэтак...
Словам, справа
тут адна:
Вёска цёмная
здаўна,—
Трэба вёску
прасьвятліць,
Ды няма каму
зрабіць!




*Сяброўскі шарж.*



**Янка Маўр** шагае са сваім атрадам на юбілей „Беларускага Піонэра“.

# НОЖЫК.

*Апавяданьне* **Шолам-Алэйхэма**[1]). *Малюнкі* **Ів. Шульгі.**

## I.

Я раскажу вам, дзеці, гісторыю аднаго ножыка, ня выдуманую гісторыю, а праўдзівую, такую, якую мне давялося перажыць у дзяцінсьцьве.

Нішто я так ня любіў на сьвеце, як ножык; нічога так не жадаў я мець, як ножык, хоць які-небудзь ножык! Няхай ён сабе будзе схаваны ў мяне ў кішэні, каб у любы момант я мог дастаць яго і рэзаць ім, што захачу,—няхай увесь сьвет ведае аб тым, што ў мяне ёсьць ножык!

Нядаўна пачаў я хадзіць у хэдэр[2]), да настаўніка Ёселя Дардакі. У гэты час я меў ужо ножык, гэта значыць такую рэч, падобную да ножыка. Я змайстраваў яго сам. Я выдраў пяро з гусінага крыла, абрэзаў яго з аднаго канца роўна, з другога трохі абстругаў, абгладзіў, каб падобна было на лязо і ўявіў сабе, што гэта сапраўдны ножык, што ім можна рэзаць, што хочаш.

— Адкуль гэтыя пер'і, ліха тваёй галаве, шэльма? Што за манера цягацца з пер'ямі?—кашляючы, пытаў мяне бацька, хворы чалавек з жоўтым худым тварам. Вось дык цацкі знайшоў, кхе-кхе-хе!

— Няхай сабе дзіця забаўляецца,—пярэчыла яму матка, маленькая кабета ў шаўковай хустцы,—табе-б толькі грызьціся хвораму, пашануй сваё здароўе!

Пасьля, калі я пачаў зубрыць хумэш[3]), у мяне быў ужо другі ножык, таксама ўласнага вырабу: я дастаў сабе кавалак бляхі, убіў яе сяк-так у калодачку, добра вытачыў яе без тачыла, на камяні, і парэзаў сабе пры гэтым усе пальцы.

— Падзівіся, як ён пакалечыў сябе, пястунчык гэты твой!—закрычаў бацька і сьціснуў мне пальцы так, што косьці хруснулі,—здатны хлапчына, скажу вам!

— Ліха мне з ім,—сказала матка,—вырвала ў мяне ножык і кінула яго ў печ. —Канец гэтай бядзе, ня будзе болей ножыка!

Але я здабыў новы ножык, на гэты раз зусім сапраўдны: круглы, пузаценькі, з драўлянай гарбаценькай калодачкай, нават складаны ножык. Вы хочаце ведаць, як я яго нажыў? Я назьбіраў сабе „капіталу“ з маіх сьняданак і купіў яго ў Шлёмкі за сем грошай гатоўкай, а тры грошы ён паверыў мне.

Ой, як-жа я любіў гэты нож! Прыходзіш, бывала, дахаты з хэдэра, змучаны, галодны, санлівы, зьбіты (настаўнік Мотка Малхамувэс пасадзіў мяне нядаўна за талмуд, якога я ніяк ня мог здалець...) прыдзеш гэта дахаты, выцягнеш ножык з-пад чорнай шапы (ён ляжаў у мяне там таму, што ў хэдэр насіць нямożна было, а дома ніхто не павінен быў ведаць, што ў мяне ёсьць ножык), прыгорнеш яго да сэрца, парэжаш ім паперу, пакрышыш саломінку і толькі пасьля гэтага пачынаеш дзяліць сваю порцыю хлеба на малюсенькія кавалачкі, бярэш кожны кавалачак кончыкам ножыка і кладзеш яго, нарэшце, у рот.

Перад сном я чысьціў яго, гладзіў, мыў, даставаў свой тачыльны каменьчык, які я знайшоў на вышках хаты і ціханька пачынаў гастрыць свой ножык...

Бацька, бывала, сядзіць тут-жа ў ярмолцы; ён нахіліўся над кнігай, чытае і кашляе, кашляе і чытае.

---

¹) Шолам-Алэйхэм — выдатны яўрэйскі пісьменьнік канца 19 і пачатку 20 веку (памёр у 1916 г. ў гор. Нью-Йорку).

³) Яўрэйская пачатковая царкоўная школа.

²) Хумэш—сьвятое пісаньне.

### 7. Пра малога Апанаса.

Напісалі прачыталі
І за сорак з
ліхам вёрст
Апанас яе
панёс
У рэдакцыю,
у Менск.
(Ён хадзіць
ахвоту меў),
У рэдакцыі
прынялі,



Доўга з хлопцам разважалі,
І урэшце парашылі
Ход належны справе даць:
Допіс цалкам друкаваць!

Матка на кухні, яна пораца ўсё з цестам, а я ўсё гастру ножык, усё гастру...

Бацька раптам як усхопіцца, быццам са сну:

— Хто гэта там пішчыць? Хто гэта шаруецца? Што гэта ты вырабляеш там, рыштанюга?

Ён падкрадваецца да мяне, нахіляецца над тачыльным каменьчыкам, круціць мяне за вуха і кашляе.

— Ножыкі?! А-а-а!—мармыча бацька і выхапляе ножык разам з „тачылам“,— гультай які! Вазьмі лепш кнігу, пачытай...

Я плачу, аж захліпваюся, бацька лупіць мяне па сьпіне і па шчоках, матка з закасанымі рукавамі выбягае з кухні і крычыць:

— Ціха, ціха, што тут такое? За што ты б'еш яго, апамятайся! Чым дзіця правінілася?

— Ножыкі?!— крычыць бацька і кашляе,— падумаеш, які барынь!.. Вось дык хлапчына на маю галаву, ай-яй-яй!.. Няхай лепш кнігу чытае! Маладому чалавеку восем гадоў, а ён з ножыкамі забаўляецца, гультай гэтакі!..



*...а я ўсё гастру ножык...*

Але, скажэце, калі ласка, які праступак зрабіў мой ножык перад бацькам, завошта такая зьненавідзь да яго?

Бацьку свайго я помню заўсёды хворым, жоўтым, злосным на ўвесь сьвет. Адна матка бароніць мяне, яна заўсёды на маім баку.

Ножык мой закінулі,—закінулі так, што я восем дзён запар шукаў яго і ня мог нідзе знайсьці. Я горка аплакаў яго, мой гарбаты мілы ножык, і мне было вельмі сумна, калі я, седзячы ў хэдэры, успамінаў, што вось прыду я дахаты з апухлым тварам, з чырвонымі вушамі, нацёртымі Моткам Малхамувэсам, і няма мне радасьці. Я адчуваў сябе асірацелым, і ніхто, ніхто ня бачыў маіх сьлёз, якія ў цішы праліваў я на сваёй пасьцелі ўначы. Наплакаўшыся колькі хацелася, я выціраў вочы, засынаў і рана зноў ішоў у хэдэр, а там ужо Мотка ўсіх надзяляе аплявухамі, і пасьля гэтага бацькаў кашаль, хрыпоты, лаянка,—ня было ў мяне вольнай хвіліны, нішто мяне ня радавала, адзін я застаўся, як горкая сіротка!

## II.

З таго часу мінуў год, а можа—паўтара. Я пачаў забывацца аб сваім гарбацянькім ножыку. Але відаць, на раду было мне напісана гараваць з-за ножыкаў. На бяду маю зьявіўся ў мяне новы ножык, цікавы ножык—з дзьвюма заляскамі, дарагімі сталёвымі заляскамі, як мячы, і з белымі касьцянымі тронкамі. Паверце на слова, гэта быў сапраўдны „завялаўскі“ [1]) ножык. Як патрапіў да мяне, да бедняка, такі дарагі ножык? Гэта вельмі сумная і захапляючая гісторыя. Слухайце ўважліва!

У нас на кватэры спыніўся аднойчы падрадчык, пан Гэрц Гэрцэнгэрц.

Якімі вачыма павінен быў я глядзець на голенага гэтага немца, на пана Гэрца Гэрцэнгэрца? Гутарыў ён хоць і паяўрэйску, але шапкі не насіў, барады ў яго ня было, пэйсаў таксама, а жакетка яго была, выбачайце за тое, што прагаварuся, напалову карацей, чым трэба. Ці можна-ж было стрымацца, скажэце мне, і не памерці ад сьмеху, калі гэты яўрэйскі немец або нямецкі яўрэй пачынаў гутарыць са мной паяўрэйску і пачынаў „акаць“ на забаўнай сваёй яўрэйскай мове.

— Ну-с, мілы хлопчык, кажы, якая „сэдра“ [2]) на гэтым тыдні?

— Хі-хі-хі,—пырскаўся я ў кулак.

---

[1]) Завялаў—фабрыкант таго часу.

[2]) Хумэш падзяляецца на разьдзелы—„сэдры“, кожная сэдра мае назву і прыпадае на пэўны тыдзень.

— Адкажы мне, мілы хлопчык, якую сэдру хумэша мы чытаем на гэтым тыдні?—ізноў прыставаў ён.

— Хі-хі-хі! Ба-лак!..[1])—выпаліў я са сьмехам і ўцёк.

Але гэта ўсё было спачатку, калі я добра не пазнаёміўся яшчэ, не асвоіўся з нашым госьцем, затое пасьля, калі я пасябраваў лепш з панам Гэрцам Гэрцэнгэрцам (ён прабыў у нас больш за год), я пакахаў яго і перастаў наракаць на тое, што ён ня моліцца і есьць, не памыўшы рук. Спачатку я ня мог здагадацца, як гэта ён не захлынуўся ядой у час абеду, чаму гэта ня лезуць валасы з ненакрытай шапкай яго галавы? Настаўнік мой, Мотка, пераконваў мяне, што немец гэты—ня немец, а пераверцень. Бязбожны яўрэй перавярнуўся ў немца, пасьля ён стане воўкам, каровай, канём і нават гусем.

Няўжо й гусем!

„Ха-ха-ха! Вясёлая справа“, думаў я і вельмі шкадаваў таго няшчаснага немца. Аднаго толькі ня мог я зразумець: чаму бацька, які лічыўся набожным і паважным яўрэем, заўсёды аддаваў яму сваё месца, і ўсе іншыя людзі, што бывалі ў нас, таксама адносіліся да немца з павагай.

—Шолам-алэйхэм[2]), пане Гэрц Гэрцэнгэрц! Будзьце ласкавы, пане Гэрц Гэрцэнгэрц! Сядайце, калі ласка, рэб Гэрц Гэрцэнгэрц!

Я ня стрымаў і запытаўся аб гэтым бацьку, але ён мяне адштурхнуў:

— Пашоў вон, не твая справа! Няма чаго тут швэндацца пад нагамі. Вазьмі лепш кніжку, пачытай!

Зноў кніжка? Бацюшкі вы мае!

Я бягу ў сьвятліцу, хаваюся ў куточку і слухаю, як размаўляюць у нас, як пан Гэрц Гэрцэнгэрц сьмяецца на ўсё горла і смокча тоўстыя чорныя „цыгары“, якія пахнуць няма-ведама як прыемна... Неўспадзеўкі падыходзіць да мяне бацька і... што-б вы думалі? Я атрымліваю „на абаранкі“, мяне ён лупцуе па мордзе.

---

[1]) Назва сэдры.

[2]) Мір вам (здрастуйце).

## 8. Пра малога Апанаса.

Пагасьціўшы, разьвітаўся
Апанас з усімі тут.
І, як лёгкі той лятун,
Драпануў хутчэй дамоў
Пахваліцца навіной.
Допісь зараз прапусьцілі,
Праз машынку „Ундэрвуд“.



— Зноў ты тут, гультай гэтакі! Што з цябе будзе, рыштанюга! Бяда на маю галаву расьце!

Пан Гэрц Гэрцэнгэрц хоча абараніць мяне.

— Не чапайце яго!

Але гэта не памагае. Бацька выганяе мяне. Я бяру кніжку, але хіба ў ёй вычытаеш што-небудзь талковае і цікавае? Я соваюся з аднаго пакою ў другі, пакуль не трапляю ў чыстую сьвятліцу, дзе жыве сам Гэрц Гэрцэнгэрц. Як прыемна, як добра тут, сьветла! Гараць лямпы і блішчаць люстэркі. На стале вялікая срэбная чарніліца і маленькія пер'і, чалавечкі і конікі, цацкі, камянчыкі і... ножык! Эх, які ножык! Вось каб мне гэтакі ножык! Чаго-чаго толькі не нарэзаў-бы я ім! Паспрабую, ці гостры? Так, ён адразу пераццяў валасок! Эх, які ножык!..

Яшчэ момант—і ножык у мяне ў руках. Я аглядаюся і хачу патрымаць у сябе ў кішэні ножык, хоць-бы адну хвіліну. Рука дрыжыць... Сэрца стукае моцна, я нават чую, як яно выбівае „Цік-цік-цік“... Хтосьці ідзе, зашэрпалі нечыя боты... Гэта ён, пан Гэрц Гэрцэнгэрц? Куды схавацца? Хай ножык пабудзе ў мяне, я палажу яго пасьля зноў назад. А цяпер трэба ўцякаць, уцякаць адгэтуль, бегчы, бегчы!..

. . . . . . . . . . . . . . . . . .

Я ўжо не магу вячэраць. Матка дзівіцца, ці няма ў мяне гарачкі, яна мацае маю галаву. Бацька кідае на мяне гнеўны погляд і гоніць спаць... Спаць, — хіба цяпер засьнеш? Я ні жывы, ні мёртвы. Што зрабіць з ножыкам?

Як палажыць яго назад?

III.

— Хадзі сюды, золата маё самаварнае,—кліча мяне назаўтра рана бацька.— Ты ня бачыў, часамі, ножыка?

Сьпярша я вельмі перапалохаўся. Мне здалося, што ён усё ўжо ведае, я чуць нават ня выдаў сябе: ножык? вось ён... Штосьці сьціснула мяне ля горла і я адказваю дрыжачым голасам:

— Што? Які ножык?

— Што—які ножык? — перадражнівае мяне бацька.—Што—які ножык! Залаты ножык! Госьця нашага ножык! Рыштант ты гэтакі, гультай, сьвінапас!

— Чаго ты прыстаеш да дзіцяці?—перапыняе яго матка.—Беднае дзіця нічога ня ведае, а ты яму марочыш галаву... ножык, ножык...

— Як гэта ён ня ведае,—кажа бацька злосна.—Цэлую раніцу ўсё крычаць: „ножык, ножык, ножык“, усю хату перавярнулі, а ён пытае: што, які ножык? Ну, добра, ідзі мыцца ўжо, гультаіна ты гэтакі!..

Добра яшчэ, што мяне не абшукалі тады. Але што рабіць далей? Трэба схаваць ножык у спадзейнае месца... Куды-б гэта схаваць яго? Пайду на вышкі! Я вымаю ножык з кішэні, упіхаю яго ў халяву... За сьнеданьнем я чуць не задушыўся, глытаю і ня ведаю, што глытаю, яда становіцца поперак у горле.

— Чаго ты так хапаеш? Куды ты сьпяшаешся?—пытае бацька.

— Я сьпяшаюся ў хэдэр,—адказваю я і адчуваю, што цэлы пажар узьнімаецца на маіх шчоках.

— Працавіты які!.. Што вы скажаце аб нашым праведніку?—мармыча бацька і злосна глядзіць на мяне.

Сяк-так я скончыў есьці.

— Чаму-ж ты не бяжыш у хэдэр, мілы мой?—пытае мяне бацька.

— Куды ты гоніш яго?—кажа матка.— Няхай дзіця пасядзіць хвілінку.

А я ўжо на вышках... Зарыты сярод кучы агародніны ляжыць мой белый ножык, ляжыць і маўчыць.

— Чаго ты лазіш па вышках?—крычыць бацька.—Гультай, сьвінапас, баньшчык...

— Я нечага тут шукаю...—адказваю я і хістаюся з перапалоху.

— Нечага? Што азначае гэта „нечага?“ З чым яго ядуць гэта „нечага?“

— К... нігу... Старую кнігу...



*Паспрабую, ці гостры?*

— Кнігу? На вышках? Ах ты, гіцаль! [1]) Злазь адтуль, ты ў мяне зараз пачытаеш старую кнігу...

Мяне ня трывожыць гнеў бацькі, я баюся—як-бы вось не знайшлі мой ножык. Гэта-ж ня жарты! А раптам уздумаецца каму-небудзь палезьці на вышкі, разьвешваць там бялізну. Не, трэба забраць яго і схаваць у больш спадзейнае месца... Кожны погляд вачэй бацькі кажа мне, што ён усё ведае і я трасуся: вось ён можа схапіць мяне і запытаць, дзе я схаваў ножык нашага немца... Але я ўжо знайшоў для яго

[1]) Гіцаль—чалавек, які ловіць у гарадох па вуліцах бяздомных сабак.

месьцечка, цудоўнае месьцечка. Я выкапаў ямку ля сьцяны, палажыў туды ножык, накрыў саломай для таго, каб пасьля мог сам знайсьці...

Прышоўшы з хэдэра, я бягу зараз-жа на двор, адкапваю, чуць дышучы, ножык, але мне не даюць нават налюбавацца ім, голас бацькі грыміць ужо:

— Дзе ты там? Чаму ты ня йдзеш маліцца? Рамізьнік, вадалаз!..

Але колькі-б ня лаяў мяне і ня мучыў бацька, колькі-б ня біў, ня сек настаўнік, усё гэта нішто ў параўнаньні з шчасьцем, якое ахоплівала мяне, калі я браў у рукі ножык. Але шчасьце гэта— як ня дзіўна! заслана было туманам трывогі, страхам і благімі думкамі.

IV

Цудоўнае лета. Спускаецца за небасхіл сонца, паветра халаднее, трава прыемна пахне, квохчуць жабы і кавалкі хмараў пралётваюць міма, насоўваюцца на месяц, засланяюць яго. Белы, срэбны месяц хаваецца і выскаквае зноў, ён то плыве, то стаіць на адным месцы.

Бацька сядзіць на траве; ён у халаце, адна рука ў яго за пазухай, другой ён шаруе па траве, глядзіць на зорнае неба і кашляе. Твар яго пры сьвеце месяца здаецца мяртвым, ён серабрыцца. Бацька сядзіць якраз на тым месцы, дзе захаваны мой ножык, і ня ведае, што схавана пад ім! Ого, калі-б ён ды ведаў! Што магло-б здарыцца тады са мной?

„Ага,—думаю я,—ты закінуў мой гарбаты ножык, а цяпер у мяне ёсьць у сотню разоў лепшы. Ты сядзіш на ім і ня ведаеш! Ой, тату, тату“.

— Што ты вылупіў на мяне вочы, як к-кот? — крычыць бацька,—сядзіш злажыўшы рукі, як асэсар? Ня можаш работу сабе знайсьці? А вячэрнія пацеры згаварыў ужо? Каб ты ня здох, гультай гэтакі! Каб чорт цябе не забраў, рыштанюга!

Калі ён гаворыць: „каб ты ня здох“, або „каб чорт цябе не забраў“,—гэта азначае, што ён не такі ўжо злосны; гэта азначае—ён у добрым сабе настроі. І сапраўды, ці можна мець дрэнны настрой у такую цудоўную летнюю ноч, калі кожнага цягне з хаты на сьвежае паветра, на мяккае прапаласканае дажджом паветра. Усе—на вуліцы. Бацька, матка, маленькія дзеці, што капаюцца ў пяску, шукаючы каменьчыкаў. Пан Гэрц Гэрцэнгэрц гуляе сабе па панадворку бяз шапкі, пакурвае цыгару, сьпявае нямецкую песеньку, глядзіць на мяне і рагоча... Ён сьмяецца, відаць, над тым, як бацька муштруе мяне... А я сьмяюся над імі над усімі. Зараз яны палягуць спаць, а я пабягу да вядомай сьцяны (я сплю на дварэ,—у хаце вельмі-ж горача), адкапаю ножык і нацешуся ім, колькі захачу.

Людзі заснулі, ціха. Я асьцярожна ўстаю, няпрыкметна на карачках выпаўзаю на двор. Ноч ціхая, паветра сьвежае, чыстае. Я памаленьку падпаўзаю да месца, дзе пахаваны ножык, выцягваю яго, разглядаю пры сьвеце месяца. Ён блішчыць, ён зіхаціць, як дарагі камень. Я ўзьнімаю вочы і бачу, што месяц утаропіўся на мяне, на мой ножык... Што ён тут убачыў? Я павяртаюся сьпінай—месяц усёроўна глядзіць на мяне. Я накрываю ножык рубашкай—месяц усё ня зводзіць вачэй. Ен то ведае, што гэта за ножык, дзе я ўзяў яго... Узяў?.. Так, я украў яго!

Першы раз за ўвесь час, калі зьявіўся ў мяне ножык, мне прыходзіць у галаву гэта страшнае слова. Украў? Значыцца, я злодзей! Проста злодзей? Трэба палажыць ножык назад. Ня трэба крадзенага

## 9. Пра малога Апанаса.

Сеў Алесь [1]) на самакґут
І ў друкарні, як маланкай,
Допіс лёг у свае гранкі!



А праз нейкі
час патом
Завярцела калясом
Тут машына
і—за міг—
Сьвежы нумар
маем мы [2]).

Хлопцы нумар прачыталі,
Аж раты паразяўлялі:
Свой уласны бачаць допіс—
Вось часопісь, дык часопісь!

[1]) Алесь—сябра рэдакцыі.
[2]) Толькі-ж, браткі, агаворка: Гэты міг двум тыдням роўны. Але гэта ўсёроўна.

ножыка. Заўтра-ж палажу я на месца ножык.

Гэтак разважаю я, хаваю нож за пазуху, але ён пячэ, шчыкоча мяне. Не, трэба схаваць яго да заўтра ў зямлі. А зьверху глядзіць на мяне месяц. Чаму ён глядзіць? Што патрэбна яму?.. Я ўпаўзаю паціхеньку ў хату, узлажу на пасьцель, хачу заснуць і не магу. Перакідаюся з боку на бок і не магу заснуць...

Толькі пярэдаднем прышоў да мяне сон, і я сасьніў месяц, я сасьніў ножыкі і жалезныя пруты, якімі, згодна хумэша, б'юць у пекле зладзеяў. Рана на другі дзень я ўскочыў з пасьцелі, згаварыў пацеры, сьпешна пад'еў і пабег у хэдэр.

— Чаму ты так сьпяшаешся? — крычыць бацька. Чэрці цябе гоняць? Ня згубіш нічога, калі пазьней пойдзеш. Згавары пацеры як сьледуе, і ня глытай слоў. Пасьпееш налётацца, гуляка ты, невуч, вадалаз!

V.

— Чаму гэтак позна? Паглядзі, галубчык, сюды! — зьвяртаецца да мяне настаўнік і паказвае пальцамі на майго таварыша, Барэля Чырвонага, які стаіць у кутку з апушчанай уніз галавой.—Ты бачыш яго, гультаіна? Ведай-жа, што з сёнешняга дню і на ўвесь час імя яго не Барэль Чырвоны, як ён зваўся дагэтуль, не! Цяпер яго завуць Барэль злодзей! Крычэце-ж, дзеці: Барэль—зло-дзеей! Барэль—зло-дзе-ей!

Настаўнік цягнуў нарасьпеў гэтыя словы, вучні цягнулі за ім хорам:

— Барэль зло-дзе-ей! Барэль зло-дзе-ей!

Я камянею, мароз прабягае ў мяне па скуры. Што ўсё гэта значыць?..

— Чаму ты маўчыш, лодыр?—зьвяртаецца да мяне настаўнік і б'е мяне па мордзе. Чаму ты маўчыш, разявака? Ты чуеш, як усе сьпяваюць, сьпявай з імі „Барэль зло-дзе-ей!

У мяне хадуном ходзяць рукі і ногі, зуб на зуб не пападае, але я падпяваю:

— Барэль зло-дзе-ей!



*Барэль стаіць голы, у чым матка радзіла.*

— Мацней, балбес ты гэтакі,—падганяе настаўнік,—мацней, мацней!

Я сьпяваю разам з усімі хорам на розныя галасы:

— Барэль зло-одзе-ей! Барэль зло-одзе-ей!

— Ціха!—крычыць раптам настаўнік і стукае кулаком аб стол.—Ціха! Зараз мы наладзім суд. А ну, Барэль-злодзей,—соладка сьпявае настаўнік,—ідзі сюды, дзіця маё, падыдзі сюды, галубок! Скажы-ж, мілы хлопчык, як цябе завуць?

— Барэль.

## 10. Пра малога Апанаса.

Праз хвіліну усе з вёскі
Ад канца і да канца
Пазьбіраліся к хлапцам.
Прачытаць усе
жадалі,
Што пра вёску
напісалі.
І сяляне Апа-
наса
Падымалі на
гура
І крычалі ўсе—
„Ура!“
А ў Райкоме прачыталі
І вось так сабе сказалі:
Верна, братцы, нам ня ў памяць
Была вёска на паляне...



— А яшчэ як?

— Барэль... Барэль... злодзей!

— Вось так, мілы хлапчына, вось так, дзіця маё.—І настаўнік зноў сьпявае:

— А цяпер, Барэль, будзь мне жыў і здароў, патурбуйся мілы, спусьці штонікі, вось так, хутчэй, вось так, Барэль, родны мой!..

Барэль стаіць голы, у чым матка радзіла. Каплі крыві няма ў яго на твары, ён акамянеў.

Вочы апушчаны. Ён памёр, ён мяртвы!..

Настаўнік выклікае самага дарослага вучня і працягвае распяваць:

— А ну, Гэршэль вялікі, выходзь сюды з-за стала, выходзь да мяне хутчэй. Сюды, да мяне, жывей, вось так. Раскажы-ж ты нам спачатку да канца гісторыю аб тым, як Барэль зрабіўся злодзеем. Слухайце, дзеці, слухайце ўважліва!

І Гэршэль-вялікан апавядае гісторыю аб тым, як Барэль залез у матчыну бляшанку, куды яна кожнае пятніцы кідала па капейцы або па дзьве; як Барэль намазаў смалой саломку і гэтай саломкай тонкай-павыцягваў усе капейкі з бляшанкі; як матка яго, Злата, агледзела гэта і як Бартэль, пасьля муштроўкі, прызнаўся, што ён цэлы год цягаў капейкі, на якія на нядзелях купляў два абаранкі і як...

— Цяпер, дзеткі, разважайце самі, як я вас вучыў. Няхай кожны выкажа свой прысуд над злодзеем, які краў капейкі з сьвяточнай бляшанкі-скарбонкі.

Гершаль—малакасос, скажы ты першы, што трэба зрабіць са злодзеем Бэралем?

Настаўнік схіляе галаву на бок, зачыняе вочы і настаўляе правае вуха да Гершаля. Ён адказвае моцным, поўным голасам:

— Злодзей, які цягае капейкі з матчынай скарбонкі, варты таго, каб яго білі да таго часу, пакуль не пакажацца кроў...

— Моўша, што зрабіць са злодзеем, які цягае капейкі з сьвяточнай скарбонкі?

— Злодзей,—кажа Моўша голасам падобным на плач,—злодзей, які цягае капейкі з сьвяточнай скарбонкі варты таго, каб яго зьвязалі, двое павінны сесьці яму на галаву, двое на ногі, і секчы яго салоннымі дубцамі...

— Топель Тутарэту! Што трэба зрабіць са злодзеем, які цягае капейкі з матчынай скарбонкі?

Копель Кукарэку, па празваньню Топель Тутарэту, хлопчык, які ня можа вытаварваць „к“ і „г“, выцірае носік і пісклівым галаском выводзіць свой прысуд:

— Злодзей, які цягае тапейці з старбонты варты таго, таб хлопчыты падышлі да яго блізта і стазалі проста яму тройчы ў твар: Злодзей! Злодзей! Злодзей!

Увесь хэдэр захлынаецца ад сьмеху. Настаўнік падпірае тоўстым пальцам горла і выклікае мяне:

— Выходзь, Шлёма, мой дарагі і судзі! Што трэба зрабіць са злодзеем, які крадзе капейкі?

Я хачу адказаць, але язык ня слухае мяне. Мяне трасе, як ад трасцы, горласьціскаецца, быццам абцугамі. Халодны пот асыпае мяне з галавы да пят. У вушох бсьвішча. Я ня бачу ні настаўніка, ні Барэля—злодзея, ні сяброў сваіх. Я бачу толькі ножыкі, ножыкі без канца і краю, белыя складаныя ножыкі са многімі заляскамі, а за дзьвярыма вісіць месяц, усьміхаецца й глядзіць на мяне чалавечымі вачыма... Галава круціцца, хэдэр верціцца разам са сталом, з кнігамі, з таварышамі, з месяцамі, які вісіць за дзьвярыма. Ногі мае падцінаюцца, яшчэ момант—і я павалюся. Але стрымліваю сябе ўсімі сіламі і стараюся не паваліцца...

Увечары я прыходжу да хаты, твар мой гарыць, у вушох зьвініць. Нехта балакае аб нечым, ня ведаю аб чым. Бацька з кімсьці спрачаецца, нэрвуе, ён хоча мяне біць. Матка бароніць мяне, расстаўляе фартух, як курыца разгортвае крыльлі, калі яна выседжвае яйкі, паспрабуйце яе закрануць... Я нічога ня чую і не хачу чуць. Я чакаю, калі надыдзе ноч, тады я скончу з ножыкам. Што рабіць з ім? Прызнацца і аддаць? Але тады са мной зробяць тое, што з Барэлем. Падкінуць? А калі мяне зловяць? Трэба выкінуць і справа будзе скончанай, толькі-б вось збавіцца ад яго. Але куды закінуць яго, каб не знайшлі? У ваду, кінуць у ваду, у студню, у нас на дварэ...

Плян гэты мне падабаецца, больш разважаць і думаць няма чаго. Я хапаю ножык, бягу да студні, мне здаецца, што ў руках у мяне ня ножык, а трасца некая, зараза, ад якой чым барджэй трэба адкараскацца. Але як шкада! І які дзіўны ножык! І вось мне здаецца, што ў руках у мяне жывая рэч. Сэрца сьціскаецца ад болю. Колькі клопату і гора прынесла мне гэта бедная істота—ножык. Я зьбіраю ў адно цэлае ўсю маю волю, разжымаю руку—плюх!.. боўтнула ў вадзе—і няма ножыка! З хвіліну стаю я ля студні і прыслухоўваюся,—нічога ня чуваць, выратаваўся! А сэрца шчыміць: „Як-жа гэтак? Мілы ножык!..“

Я іду да свае пасьцелі, месяц крадзецца за мной сьледам, і мне здаецца, што ён бачыў усё. Я чую голас здалёк. „І ўсё такі ты злодзей! Беце яго, лавеце! Ён—злодзей! Злодзей!“

Я прыходжу ў хату і кладуся спаць. Мне сьніцца, што я бягу, лячу ў паветры з ножыкам у руках, а месяц імчыцца за мной і прыгаварвае: „Лавеце яго! беце яго! ён—злодзей! Зло-одзе-ей!!!“

VI.

Доўгі сон! Цяжкі бачыў сон! Глуха шуміць галава. Усё заліта крывавым сьветам. Агністыя, гаручыя пруты ўпіваюцца ў маё цела, я трапячуся ў крыві, мяне абхінулі вужакі, раты ў іх шырока расчынены, яны хочуць мяне праглынуць... Я чую, як проста ў вуха трубіць труба: „ту-ту!“ Голас трубы ўсё мацнее: „ту-ту!“ Хтосьці нахіліўся нада мною і

### 11. Пра малога Апанаса.

І вось з гэтае пары  
Райячэйкі і Райрык  
Гэтак там загаварылі,  
Што праз тыдзень—І ня больш!—  
Ка-Сэ-Мэ  
сюды даеш!  
Грунт для  
працы быў  
заложан:  
Апанасаў  
брат Сымон




Запісаўся ў Комсамол.  
І яшчэ, яшчэ хлапцы—  
Удалыя малайцы.  
Праца ў вёсцы закіпела:  
Збудавалі ўласны клюб—  
Заглядзецца ажна люба!

сьпявае: „Сячэце яго! Сячэце яго! Гэта злодзей!!!“

І сам я крычу:

„Прымеце ад мяне месяц! аддайце яму ножык! чаго ён хоча ад Барэля? ён ня вінаваты, гэта я—злодзей! Злодзей!

Што было далей, ня памятаю...

. . . . . . . . . . . . . . . . .

Я адчыняю адно вока, пасьля другое...

Дзе я? Здаецца, у пасьцелі? Што я тут раблю? Хто сядзіць на заслоне ля пасьцелі? Гэта ты, мама? Яна ня чуе...

Мама! мама! Што гэта азначае? Мне здаецца, я крычу на ўвесь голас. Ціха—яна плача? Я бачу бацьку, у яго жоўтае хваравітае абліччa. Ён схіліўся над кнігай і шопатам мармыча, кашляе, уздыхае, крэхча... Няўжо я памёр? Памёр? І адразу я пачынаю адчуваць, як праясьняюцца мае вочы, галава не баліць болей, усё цела выпроствaецца, адно вуха заныла, у другім зьвініць: дзілінь! Я кашляю: апчхі!

— На здароўе, жыві доўга! Добрая прымета, здаровы будзеш!

— Ён чхае! Чхай на здароўе!

— Ён будзе жыць! Ён будзе здароў!

— Няхай паклічуць барджэй разьнікову жонку, няхай паклічуць Мінцу, якая загаварвае ад чужога вока.

— Доктара трэба паклікаць, доктара!

— Навошта доктара? Глупства!

— Расступецеся, як тут горача! Разыдзецеся, будзьце ласкавы!

І раптам я сем раз чхнуў і ўстаў з мяртвых.

— Бацюшкі вы мае,—плача матка,— колькі сьлёз мы пралілі, я і бацька твой, пакуль не адышоў ты... І з-за каго? з-за хлопчыка нейкага, з-за злодзея Барэля нейкага, якога вылупцаваў настаўнік. Калі ты прышоў з хэдэра, ты быў ужо як мяртвы, о, гора мне! Ва ўсім вінаваты разбойнік, настаўнік твой, каб яму горка было... Не, хлопчык мой, цяпер, калі ты акрыяеш, ты ня пойдзеш да гэтага настаўніка. Мы пашлем цябе да другога.



*—Бацюшкі вы мае,—плача матка,—колькі сьлёз...*

Навіна гэта вельмі падабаецца мне. Я абнімаю матку і цалую яе.

— Мілая мая мама!

Бацька падыходзіць да мяне, кладзе сваю бледную, халодную руку мне на лоб і гаворыць ціха, бяз жаднага гневу:

— Ай, як ты напалохаў нас, рыштанюга ты гэтакі!

Падыходзіць і яўрэйскі немец, або нямецкі яўрэй, пан Гэрц Гэрцэнгэрц, з цыгарай у зубах, ён нахіляе сваё голенае аблічча, гладзіць мяне па твары і гаворыць панямецку:

— Гут, гут, выздараўлівай! Гут!

А праз два тыдні пасьля хваробы бацька кажа мне:

— Ну, сынок, ідзі ў хэдэр і ня думай больш аб ножыках і іншых глупствах...

Пара стаць сталым чалавекам. Праз тры гады—ты дарослы чалавек [1]).

Ён праводзіць мяне да новага настаўніка, Хаіма Ката. У першы раз чую я ад злоснага свайго бацькі добрыя, прыемныя і мяккія словы. Я забываюся адразу аб усім, усе яго лаянкі і праклёны, быццам нічога гэтага й ня было. Каб ня было брыдка, я-б абняў яго і расцалаваў, але—ха-ха-ха—дзе гэта відана—цалаваць бацьку? Мама дае мне на дарогу цэлы яблык і два грошы, немец совае дзьве капейкі, ён шчыпле мне за твар і гаворыць панямецку:

— Статны юнак! Гут, гут!

Я бяру з сабой вучэбнікі, цэлую „мямузу“ [2]), і іду ў хэдэр. На сэрцы ў мяне лёгка, галава ясная, думкі празрыстыя, сьвежыя, і сам я—як уваскрэсшы. Сонца кланяецца мне цёплымі сваімі праменьнямі. Ветрык прабіваецца пад мае пэйсы, птушкі пішчаць: „ціўціў-ціў!“ Мяне носіць па паветры, мне хочацца лётаць, скакаць, бегаць—ой, як соладка і добра, калі ты жывеш, калі да цябе не чапляецца гэты ножык!

[1]) Хлопчык, якому споўніцца трынаццаць гадоў, лічыцца дарослым.

[2]) Мямуза—кавалачак пэргаманту, на якім напісана малітва „Слухай Ізраіль“.





## Цяпер ня позьняцца!

*(М. Койданава, атрад № 12).*

Бывала, даўно ўжо празьвініць званок, як піонэры па аднаму адзін за другім цягнуцца ў школу. „Ці можна зайсьці?“. А настаўнік з нездаволенай усьмешкай адказвае: „трэ‘ было трохі пазьней прыці, дык лекцыя-б скончылася“.

Усе сьмяюцца, а другі настаўнік яшчэ заўважыць, „Які-ж ты піонэр, калі позьнішся“.

Вось гэта і прымусіла піонэрскі атрад паказаць сваю організаванасьць.

Цяпер ужо, калі і захочаш спазьніцца, ня спозьнішся. Кожны дзень перад лекцыямі чуецца працяжны *гудок сыгнала*. Піонэры сьпяшаюцца ў школу, а за імі і астатнія дзеці.

Гэта ўтварыла добрае ўражаньне ў настаўніка і вучняў аб піонэр-атрадзе. „Вось гэта справа добрая“,—кажуць яны. Калі-ж хто-небудзь з піонэраў і падумае спазьніцца, дык—на савет атраду...

**Х. Чэрчас.**

### 12. Пра малога Апанаса.

Там часопісі, газэты,
Моладзь там, і на‘т дзядкі
Прышлі з лёгкае рукі.
Кожны вечар у суботу
Лепш ня трэба, йдзе работа
Харавы і драм. гурткі
Ставяць п‘еску „Пастушкі“.



## У нас будзе больш, як 15 падпішчыкаў.

У нашай школе да гэтага часу ня было амаль што ніводнага падпішчыка на „Беларускі Піонэр“. Я пачаў чытаць часопіс у нашай школе. Вучні, зразумеўшы, якую карысьць прыносіць часопіс, сталі, па майму прыкладу, выпісваць „Беларускі Піонэр“. Цяпер у нас маецца 5 падпішчыкаў. Думаем, што на чацьверты год выданьня будзе больш як 15 падпішчыкаў.

Вучань III групы **Гарэлька Саша.**

## У часопісь „Беларускі Піонэр“.

Мы, піонэры і ўсе дзеці нашай вёскі, ня ведалі нават, што ёсьць такая часопісь да 1926 г. Калі мы атрымалі першы нумар і пачалі чытаць, дык ён нам вельмі спадабаўся ўсім, нават і не піонэрам, а цяпер мы не дачакаемся, калі прыдзе сьвежы нумар „Беларускага Піонэра“.

Для мяне і для маіх таварышоў часопісь дала шмат чаго карыснага, гэта тое, што мы навучыліся працаваць у атрадзе, рабіць розныя модэлі і шмат што ў гаспадарцы.

**М. Іваноў.**

## Зрабіў модэль самалёту.

Чытаў я гэта раз у адным з нумароў часопісі аб тым, як зрабіць модэль самалёту. А калі я ўзяўся за працу, то ён заняў у мяне ня шмат часу. „Прылажыць трэ' толькі рукі“, як пісаў Асот у вершы „Каб ня той шэры кот“.

Модэль выйшла добрая!

Вось каб аб гэткіх рэчах больш пісалі, добра было-б!

**А. Караткевіч.**

### 13. Пра малога Апанаса.

А той нумар „Піонэра“,
Што быў тагаму віной,
Ўсё шануюць ой-ей-ей.
Ўсе шануюць, паважаюць,
Падпісацца заклікаюць
На часопісь ўсіх дзяцей,



Каб ня стала больш нідзе
Такой вёскі, што й цяпер
Ня чытае „Піонэр“.
„Піонэр“ усім паможа!
Заяўляе Апанас.
Толькі шлі падпіску ў час!

## Адкуль мы ўзялі грошай для „Беларускага Піонэра“.

Мы на агульным сходзе ўхвалілі выпісаць „Беларускі Піонэр“. Але-ж вось толькі дзе-ж нам узяць грошай? У нас сваіх грошай няма. Дык вось мы пастанавілі на сваім сходзе вылучыць аднаго піонэра, каб ён сярод комсамольцаў - служачых правёў падпісны ліст. І мы гэтак сабралі 3 рублі 10 кап. і за гэтыя грошы падпісаліся на год на „Беларускі Піонэр“ і на 3 месяцы на „Пионерскую Правду“. Піонэры кажуць: „Няма чаго цяпер бедаваць, што ня будзе чаго чытаць“.

**З. Сечко.**



*Вучнёўскі беларускі харавы гурток.*

# Там, дзе раней былі паны.

У трох вярстах ад мястэчка Лёзна (Віцебскай акругі), у быўшым панскім маёнтку, раскінулася некалькі хат паміж хваёвага лесу. Гэта санаторыя „Чарніца“ для дзяцей, якія хварэюць на сухоты касьці. Яна адна ў нас на Беларусі. Навакол хваёвы лес. Тут-жа пад бокам цячэ рэчка, на якой, непадалёку ад санаторыі, стаіць вядзяны млын.

„Чарніца“ паказальны электрафіцыраваны пасёлак. Ён з кожным годам пашыраецца. У лютым месяцы г. г. пачалі рабіць новы будынак пад санаторыю, а 7 жніўня 1927 г. адчынілі яго. У той-жа дзень (7-га жніўня) зрабілі закладку фундаманту на вялікі каменны двухпавярховы будынак, які мяркуецца скончыць да 11 гадавіны Кастрычнікавай рэволюцыі.

Дзякуючы старанасьці загадчыка, санаторыя „Чарніцы“ з кожным годам пашыраецца. На адчыненьні новага будынку санторыя проф. Бетэхцін казаў, што з 39 панскіх маёнткаў Віцебскай акругі „Чарніца“ гэта самае лепшае месца для санаторыя,—яна мае шмат добрай вады, сухую пескавую глебу і хваёвы лес. Да сьнежня м-ца 1927 г. ў санаторыі было 65 месц, але цяпер пачалі прымаць хворых у новы будынак, у якім зьмесьціцца 35 чал. Так што к пачатку 1928 г. „Чарніца“ будзе зьмяшчаць 100 дзяцей з узростам ад 3-х да 14-ці гадоў (ёсьць некалькі чалавек да 20 год). „Чарніца“ сапраўдная кузьня здароўя. Адтуль хворы едзе дамоў добра паправіўшы сваё здароўе. Так, хворы Н. Нахумаў піша ў часопісе „Юныя Мысьлі“: „Шчыра дзякую Анну Грыгор‘еўну і Уладзімера Аляксандравіча Бэтэхціна, а таксама ўвесь мэдпэрсанал санаторыя „Чарніца“ за вылячэньне ад сухотаў касьці“. Грынкевіч Якім з вескі Паляны, Самахвалаўскага раёну ня мог хадзіць, а паехаў дамоў зусім здаровы, а Ваўчок Сёва, з Слуцку, які таксама зусім ня мог хадзіць, паехаў без кастылёў і цяпер піша, што вельмі добра сябе адчувае, ходзіць у школу. Закрэўскі Рыгор ня мог зусім павярнуцца, ляжаў і ня мог рухацца, а цяпер адчувае сябе добра. Такіх хворых я прывёў-бы шмат, але думаю, што і гэтых прыкладаў хопіць, каб упэўніцца, што „Чарніца“ сапраўды паляп-





*САНАТОРЫЯ „ЧАРНІЦА“. Наверсе—агульны выгляд будынку, унізе—хворыя дзеці разам з служачымі санаторыі.*

шае здароўе дзяцей. Дзякуючы ўмеламу і добраму падыходу да дзяцей, хворыя хутка прывыкаюць да санаторскага, рэжыму і, здаецца, няма другой лепшай сям'і, як гэта санаторская. Праз санаторыю дзеці працоўных прывучаюцца жыць колектывам.

„Чарніца" ня толькі лячэбніца, але і школа. Тут маецца ленінскі куток, працуе пры санаторыі настаўніца, якая вельмі добра адносіцца да хворых дзяцей, вучыць іх чытаць, пісаць, маляваць, пець і г. д.

Пад наглядам настаўніцы хворыя дзеці выпускаюць свою санаторскую часопіс „Юныя Мысьлі", у якой апісваецца жыцьцё санаторыя. Шмат выпісваецца за кошт санаторыя дзіцячых часопісяй і газэт. Маецца шмат розных настольных гульняў. Дзеці самі лепяць розныя фігуры і прылады, як, напр., вугольныя капальні, сялянскі двор, цягнік і шмат іншых рэчаў. Пры санаторыі ёсьць бібліотэка, таксама маецца шмат кніг, падручнікаў, ёсьць дзіцячая энцыклёпэдыя (7 кніг).

Дзеці ня сумуюць, яны заўсёды вясёлыя, бадзёрыя, ім усяго хапае. Зімой кожнаму хвораму даюцца валёнкі, паліто. Чыстата ўсюды, кожны хворы прывыкае да санаторыя і з вялікім жалем разьвіваецца з ім.

Дзень у санаторыі праходзіць вельмі весела. У 7 гадзін усе хворыя ўстаюць і мыюцца, у 8—першае сьнеданьне, пасьля якога заўсёды доктар робіць абход хворых. У 11 гадзін другое сьнеданьне. Хвораму на яду адказу няма, можна піць малако, кофе, какао колькі хочаш. Пасьля другога сьнеданьня, хто можа, ідуць у лес на прагулку з настаўніцай. Пасьля вячэры ўсе ў ленінскім кутку: адны гуляюць у шашкі, шахматы ці што іншае, другія з настаўніцай пішуць, чытаюць, малююць альбо пяюць. Так кожны дзень хворыя праводзяць час у санаторыі, дзе яны ня толькі папраўляюцца, але і вучацца ўсяму карыснаму.

**Кірчэўскі Адам.**



## Песьня трактару.

Загудзі на палёх залатых,
Між шумлівых сялянскіх калосьсяў.
Тваю песьню—песьню вясны,
Будуць слухаць: і шум баравы,
Ї бязьмежнага неба просінь.
Наша песьня сягоньня цьвіце,
Расплываецца ў радасным полі.
Вось затым—на спатканьне вясьне,
Што прыносіць шчасьлівы нам дзень,
Праляці на чырвоным прывольлі...
Дзе учора зьвінела каса,
Ў гурбы клалася панскае жыта,
Сёньня кветкай вясна расьцьвіла,
Сеньня наша—працоўных—зямля
Яе росквітам новым абвіта.
Ї таму сёньня звоны касы
Замяніліся трактара песьнямі...
. . . . . . . .
Мы спаткаць новай эры дні
Усе вышлі радамі цеснымі...

**Ал. Розна.**

## Шляхі.

Жоўтымі лістамі высланы дарожкі,
Жоўтымі лістамі высланы шляхі...
Маё сэрца, думы цяпер не варожаць,
Я іду наперад, дзе жыцьцё віхрыць.
Радасна сьмяюцца маладыя вочы,
Быў учора смутак, а сягоньня сьмех.
У грудзёх юнацкіх сэрца штосьць прарочыць,
Лепшае, ня тое, што ў дзяцінстве меў.
Я іду шляхамі, дзе жыцьцё вірлівіць.
Вочы не патухлі—радасна гараць!
Коласам буйненькім шэпчуць казку нівы,
Узышла на ўсходзе дзіўная зара.

Піонэр **Сяргей Грахоўскі.**

## Будзеце правадыроў мяняць, будзе праца кульгаць!

*(г. Ворша)*

Ды і калі надаесьць гаварыць аб гэтым. А вось ячэйцы „камбінату“, дык ня тое што надаела гаварыць, але і рабіць не надаела.

*„Што месяц—новы павадыр!“*—такі лёзунг высунуты памянёнай ячэйкай. У атрадзе за апошнія чатыры месяцы зьменены 3 павадыры. Аднаго з працы зьнялі, вылучылі другога... Чакалі ад яго працы... Няма. Зьмянілі таго... Выбралі трэцяга...

Хлопец зусім не знаёмы з піонэрпрацай. Сакратар ячэйкі крычыць: „Дзе-ж твая праца?“ Павадыр крычыць: „Давай кіраўніцтва?“ А атрад патроху дрэмле сабе. Урэшце бюро дадумалася: „А давайце мы павадыра прывалачэм на бюро ячэйкі, што-ж ён працы не вядзе ў атрадзе“... Ну, вядома, „прывалаклі“ і закацілі вымову.

Я думаю, што ад „вымоваў“ праца атраду не палепшыцца. Лепш было-б, каб бюро занялося пытаньнем падшуканьня адпаведнага павадыра атраду. Бо калі будзеце павадыроў мяняць, будзе праца кульгаць.

**Піонэр.**

## Зіма.

Сьвішча злосны сівер,
Хмары наганяе,
Голыя бярозкі
Сьнегам апранае.
Птушкі паляцелі
Ўжо даўно ад нас,
Каб ня знаць мяцеліц
У марозны час.
Рэчка, як нямая,
Ў ланцугох зімы...
Толькі каля краю
Сьцелюцца кусты.

**Піонэр Алесь Ландарскі.**

## Мае думкі аб часопісе.

Вярнуўшыся дамоў са школы, часта сустракаеш толькі што атрыманы сьвежы нумар часопісі. Сэрца моцна б‘ецца, думаеш: „А мо‘ што зьмясьцілі і маё?“ А тут яшчэ надыдзе хто небудзь з маіх сяброў. Вось мы і пачынаем чытаць і разьбірацца ў часопісі. Прачытаўшы ад вокладкі да вокладкі, пачынаем па свойму крытыкаваць.

Я пачынаю пералічваць недахопы. „Па першае, няма спэцыяльнага аддзелу „натуралісты-краязнаўцы“, ён вельмі карысны піонэрам, падругое, слаба высьвятляецца жыцьцё акцябрат. А трэцяе, гэта тое, што творы друкуюцца большай часткай старэйшых пісьменьнікаў, а не дзяцей.

Маё-ж пажаданьне, каб часопісь болей зьмяшчала дзіцячай літаратурнай працы і каб на гэту працу зьмяшчалася адпаведная крытыка.

Увечары заходжу ў клюб піонэрскага атраду. Там таксама атрымалі адзін экзэмпляр часопісі. Піонэры чуць ня б‘юцца, каб паперадзе пачытаць часопісь.

— Ды годзе ўжо табе чытаць, давай сюды!..

— Сюды! Сюды! Давай...—крычалі піонэры.

Ня лішнім было-б атраду да 3-яй гадавіны *выпісаць яшчэ некалькі экз. часопісі.*

**А. Караткевіч.**



# АКЦЯБРАТАМ ДЛЯ ЧЫТАНЬНЯ




*Апавяданьне А. ЦІТАВАЙ.*
*Малюнкі Я. Кашкеля.*

— Куды ты гэта, Настулька, надзяваешся?—пытаецца ў Настулькі маці.

— Пайду, мамачка, трэсак назьбіраю каля Прохаравай новай хаты. А то холадна ў нас у хаце.

— Апраніся-ж, дачушачка,—дадала маці і застагнала.

Настульчына маці хворая, яна ўжо ледзь ня цэлы месяц ляжыць у пасьцелі. Бацька Настулькі на вайне з немцамі. Маленькая Настулька і ў печы паліць, і бульбу варыць, і за маткай глядзіць. Цяжка бедненькай Настульцы. Вось і сёньня холадна ў хаце. Дроў няма.


*Настульчына маці хворая.*

— Дзьму - у - у! дзьму-у-у!—вые на дварэ асеньні вецер і плача і сьвішча ў коміне. А дробны дожджык шэпча ў вокны нудную васеньнюю казку. Аж сумна.

Лапцей у Настулькі няма. Абярнула яна ногі анучкамі, прывязала аборкай і апранула старэнькую кашулю.

— Ну, мама, я пайду. Можа вады даць табе?

— Ня трэба, дачушка. Ці апранулася ты? Мусіць, дужа холадна сёньня,—дадала маці.

— Апранулася, апранулася,—адказвае Настулька.

Узяла яна посьцілку і пайшла. Баіцца ісьці Настулька па вёсцы. Баіцца сабак, а яшчэ горш баіцца янавясковыххлопцаў.

Але вось блізка і новая хата Прохара. Вялікую хату зрубіў сабе самы заможны селянін, Прохар.Толькі вакон яшчэ няма. Чуе Настулька, што ў хаце нехта бегае, сьмяецца. Бача праз ваконныя дзіркі, што там Прохараў хлопец гуляе і яшчэ нейкія дзеці. Падышла Настулька ціханька да трэсак, зьбірае іх борзьдзенька ў посьцілку.

Убачыў Прохараў хлопец, Васіль, Настульку. Як выскачыць, як закрычыць:

— Бачыш яе, зьявілася па трэскі, як у свае прышла, абадранка паршывая!

Стаіць Настулька. Сьлёзкі навярцеліся на вочкі. Страшна ёй. Стаіць і ня ведае, што ёй рабіць.

— Глядзеце, хлопцы, якія ў яе лапці, ха-ха-ха! — сьмяецца Васіль.— Высыпай трэскі з посьцілкі ды ўцякай, а то гэтак трэсну ў морду, што перакулішся! — крычыць ён.

Схапіў Васіль за рог посьцілку, высыпаў трэскі, ды як кіне посьцілку проста ў твар Настульцы.

У той час ішоў па вуліцы хлопец Мікіта. Мікіта жыў недалёчка ад Насты і ведаў, як цяжка ёй жыць. Мікіта і сам жыў бедна, але-ж у яго матка здаровая і ён ужо вялікі хлопец.

— Ты-ж гэта што, багатырскі сын, трэсак шкадуеш?—крыкнуў Мікіта на Васіля. — А ці ведаеш ты, што ў гэтай дзяўчынкі ў роце сёньня яшчэ нічога ня было, што ў яе ў хаце холадна і матка хворая ляжыць. Дык ты гэтага не папытаўся, а ў морду лупіць зьбіраешся! Трэсак шкадуеш, якія пагніюць тутака на вуліцы. У вас дроў поўны двор. Зьбірай, Настулька, трэскі!—абярнуўся Мікіта да Настулькі. Я табе дапамагу. А ты толькі падлезь, Васіль, дык хутчэй сам у морду заробіш.

— А я скажу бацьку,—крычыць Васіль.

— Кажы сабе, я яго не баюся і ў парабкі к яму не пайду,—адказвае Мікіта.

— Не чапай ты іх, Васіль,—дадалі астатнія хлопцы.

Яны хоць і ўтрох былі, але баяліся Мікіты. Пабеглі хлопцы ізноў у хату і ўжо адтуль крычаў Васіль:

— Ты толькі прыдзі яшчэ па трэскі, я цябе прыду, анучка каравая!

А Мікіта зьвязаў посьцілку з трэскамі і дапамог Настульцы падняць яе на плечы. Панесла Настулька трэскі дахаты. Хоць і цяжка Настульцы, але яна рада, што гэтулькі трэсак нясе, на два разы ў печы выпаліць хопіць і цяплей будзе хворай маці і ёй. Прынесла Настулька трэскі дамоў. Борзьдзенька запаліла ў печы. Зварыла бульбы з вадой і цыбуляй. Наліла Настулька бульбы ў місачку і прынесла маці ў пасьцель:



*Стаіць Настулька і ня ведае, што ёй рабіць.*

— На, еж, мама, цяпер цёпла ў нас будзе,—кажа яна.

Маці ціха паднялася і ледзь пачала есьці. Пачала есьці з ёю і Настулька.

**А. Цітава.**

# ПРА КАМАРА, ПАВУКА І КАРШУНА.



Быў сабе лес,
А ў лесе поўна
Прыгожых клёнаў,
І дубоў,
І грабоў,
І бярозаў старых,
Што лістамі ўгары
Гулка-зычна шумяць
І ў неба глядзяць.
Ды найбольшым
У тым лесе
На палянцы, на узрэсе
Быў дзядуля-дуб,
Што над хвоямі
Разьвесіў
Свой зялёны чуб.
А на дубе тым каршунік,
Ой, каршунік, гаргатунік,
Ў лісьцях сабе жыў
І гнядзечка—сваю хатку
На тым дубе зьвіў.
Вось аднойчы
Памаленьку
На дубовы сук
Узабраўся з павуценьнем
Пузаты павук.
І густую сетку тую
Зьвіў ён на суку
(Трэба-ж есьці павуку),
І чакае да абеду
Ён гасьця сабе у сетку.
Прыляцела муха,
Муха-сакатуха,
І тут-жа, дзеткі,—
Бух у сетку,
Бух у павуценьне!
І зьвініць, і бубніць,
Б'ецца з нецярпеньня,
Што ёсьць сілы, што ёсьць духу.
А павук згрызае муху.
Толькі ножак не паеў,
Толькі крыльцаў не даеў.
Скуль ня ўзяўся верабейка,



Жвавы канарэйка,
Скочыў ён на сук—
Бачыць,—тут павук!
— Цьвірынь, цьвірынь,
— Цэў, цэў, цэў.
— Я сягоньня 'шчэ ня еў,
— А тут справа—вось якая!



І схапіў ён павука.
А ў той міг
Штось як зашуміць!
То каршун
Гаргатун



Як шугне з гары,
Як выставіць пазуры!
Не схаваўся верабейка,
Шэры канарэйка.
Тут яму й канец!
Вось бяда дык бяда.
А каршун—да гнязда.
У гнязьдзе тым
Двое дзетак,
Двое дзетак птушанят,
Двое лютых каршунят.
Раты разяўляюць,
Матку заклікаюць:
— Есьці ўсім,
— Есьці ўсім
— Хутчэй нясі!
Па-над хмарамі ўгары,
Праз лясы і праз бары
Прэ' здаволены каршун.
— Шу-шу-шу!—
Крыламі матае,
Да дзетак пасьпяшае,
Вераб'я нясе,
Перайкі трасе



Замятае сьлед...
— Наце, дзеткі, на абед.

**Алесь Данчэнка.**
(З украінскае).

## Адзнакі будучага лятуна.



„Узьнімаецца на вышыню". „Робіць мёртвыя петлі". „Няўдалая пасадка".

# Адкуль зьявіліся „Коляды“.

### Нараджэньне Хрыста.

25-га сьнежня (па старому стылю) царква сьвяткуе нараджэньне Хрыста. Паданьне царквы кажа: 1927 гадоў таму назад у Палясьціне ў горадзе Віфліеме ад дзевы Марыі і сьвятога духа нарадзіўся сын Ісус. Зямным бацькам навароджанага быў плотнік Язэп (Іосіф).

Гэты Ісус, кажа царква, быў сынам бога і прышоў на зямлю для таго, каб, пагараваўшы ад людзей, спасьці іх сваёй крывёю, а пагэтаму мы і павінны сьвяткаваць гэты дзень. Так вучыць царква.

### Чаму Хрыстос – бог?

Добра, скажам мы. Уявім, што 1927 гадоў таму назад 25-га сьнежня сапраўды нарадзілася дзіця. Але чаму-ж яно—сын бога і бог?

Ды затым, што яно нарадзілася цудоўна. Яно нарадзілася ад дзевы. У дзеву ўвайшоў сьвяты дух і яна радзіла. Гэта сапраўды цуд! Цяпер усе ведаюць, што так ня бывае і ня можа быць. Ну, вось бачыце, кажуць папы, а матка Ісуса радзіла яго, будучы дзевай,—а раз гэта цуд, значыцца Ісус—гэта бог.

### Колькі-ж багоў на сьвеце?

— Адзін, скажа поп. Толькі адзін: бог айцец, бог сын, бог дух сьвяты. Значыцца, тры, а ў папа—адзін. Ну, што скажа вам настаўнік у школе, калі вы яму скажаце, што тры раўняюцца аднаму?

Але справа ў тым, што калі пачытаць розныя кніжкі ды пазнаёміцца з тым, як і каму вераць другія людзі, то выйдзе, што ў кожнага з іх ёсьць свой бог. У кітайцаў і ў японцаў—Буда, у пэрсаў—Мітра, у старажытных народаў, якія жылі ў Эгіпце, былі багі—Эзіда і Гор.

Усе гэтыя багі былі вядомы задоўга да таго часу, як зьявілася хрысьціянства, задоўга да таго, як стала вядома гісторыя нараджэньня Ісуса.

### Што-ж выходзіць?

Выходзіць, што тыя, што пісалі эвангельле, проста ўкралі ў другіх народаў казку аб нараджэньні бога.

Выходзіць, што даўно, даўно людзі, якім патрэбен быў бог, прыдумалі апавяданьне аб тым, што такі ці такі вось нарадзіўся ад дзевы.

Казка аб нараджэньні ад дзевы, казка ня новая і нарадзілася куды раней, чым паданьне аб нараджэньні Хрыста.

Калі мы заглянем у гісторыю жыцьця людзей, дык даведаемся, што ў далёкія часы людзі жылі ня ведаючы яшчэ агню. Гэта можа паказацца дзіўным і незразумелым.

А вось калі спытаць якога-небудзь старога дзеда, ці ведаў ён раней электрычнасьць?

— Куды, скажа ён, і лямпаў нават ня ведалі,—лучыну палілі. Запалак ня ведалі. Крэсівам высякалі агонь.

### Агонь і яго здабываньне.

Агонь вялікая дапамога для чалавека. На агні можна варыць, грэцца, ён адганяе дзікіх жывёл ад чалавека.

Калі чалавек першы раз уведаў агонь, ён яго хаваў. Ён яшчэ ня ўмеў сам здабываць яго,—ён проста даставаў вугольле ў час лясных пажараў альбо ад дрэва, запаленага маланкай. Калі здабыты агонь затухаў—гэта было вялікае няшчасьце. Ня часта бываюць лясныя пажары. Ня часта маланка запальвае дрэва!

І калі чалавек знайшоў спосаб здабываць агонь, гэта была вялікая для яго радасьць.

А здабывалі агонь людзі вось як:



Мы ведаем, што калі калёсы ня змазаны, дык вось можа загарэцца. Дрэва, калі будзе церціся аб дрэва, дасьць агонь.

Гэта пазнаў у старадаўнія часы чалавек. Ён браў брусок і прарабляў у ім ямку, затым браў другі брусок адтачваў яго з аднаго канца і ўстаўляў стромка адточаным канцом ў гэту ямку, пачынаў хутка варочаць. Ад націраньня ў ямцы паказваўся агонь. У ямку клалі кавалак сухога моху і на яго дзьмухалі пакуль не запальваўся.

Такая прылада для здабываньня агню называлася „свасьціка“, і калі мы спрабуем такім спосабам зрабіць агонь і ця-

пер, дык убачым, што ён будзе мець такую форму (гл. на ст. 32).

На што гэта падобна? Крыж! І вось з тых даўніх часоў людзі сталі пакланяцца яму.

### Агні Майя, дух сьвяты, плотнік.

Людзі скора навучыліся здабываць агонь другім, больш лягчэйшым спосабам— з крэменю, і закінулі сваю „свасьціку". Але апавяданьне аб першым спосабе здабываньня агню перадавалася з пакаленьня ў пакаленьне. Чым далей, тым больш забываліся падрабязнасьці, і гісторыя першага здабываньня—нараджэньня агню—апавядалася, як далёкая казка аб нараджэньні бога Агні. А Хрыста называюць агнцам. Агні—агнец.

Бацькам бога на зямлі быў плотнік. Плотнік той, хто робіць рэчы з дрэва. Плотнік той—хто рабіў „свасьціку". Плотнік Іосіф—бацька Ісуса-агнца—Агні. Матка яго была багіня Майя. Матка Ісуса—Марыя. Марыя—Майя.

Але яна была дзевай гэта Майя. Марыя таксама была дзевай. У яе ўвайшоў дух сьвяты. Дух—дуць, калі ў ямцы „свасьцікі" зьявіўся агончык, на яго дзьмулі (дулі).

І нарадзіла Майя—Агні ў пячэры (у ямцы „свасьцікі"). У пячэры Марыя (Майя) нарадзіла Ісуса-агнца (Агні). І палажыла Майя—Агні ў мягкую пасьцель з сухіх траў (сухі мох клалі ў дзірку „свасьцікі" для здабываньня агню). На сена (сухую траву) у ясьлі палажыла Марыя Ісуса.

Вось і выходзіць, што ўсё, што расказвае нам царква аб нараджэньні Ісуса, а другія царквы аб нараджэньні другіх багоў,—гэта проста старыя ўспаміны аб тым, як людзі ўпяршыню пачалі здабываць агонь.

### Чаму коляды сьвяткуюцца 25-га сьнежня?

Чаму 25 сьнежня па апавяданьнях папоў нарадзіўся Ісус? І ня толькі Ісус, але ўсе іншыя багі, аб якіх мы гаварылі вышэй. А вельмі проста:

Калі вялікую ролю ў жыцьці чалавека меў агонь, то ня меншую ролю мела і сонца. З вясеньнімі і летнімі днямі сонца зьвязана шмат прыемных і карысных рэчаў: краскі, травы, ягады, засеў палёў. І кепска зімою, калі хаваецца сонца, калі дні зьмяншаюцца, а павялічваюцца ночы, наступаюць халады. Чалавек з радасьцю чакае вясны і вітае той пералом, калі пачынаюць ночы рабіцца карацейшыя, а дні павялічваюцца. А гэта якраз бывае 25 сьнежня.

І здаўна павялося ў гэты дзень зьбірацца і пець песьні, радуючыся надышоўшаму пералому, радуючыся блізкасьці вясны.

„Сьвяткі" і „калядкі" вось гэта і ёсьць сьвята зімовага павароту. Царква не прызнае сьвятак, яна кажа, што гэта паганскі перажытак, які прычапіўся к царкоўнаму ражджаству. А на самай справе наадварот. „Сьвяткі" старэй „раджджаства", і ня „сьвяткі" к царкоўнаму „раджджаству" прычапіліся, а наадварот.

### Адкуль пайшлі калядныя забабоны?

Ставіць на куце сена, а ў сене кашу па думцы нашых продкаў патрэбна было таму, каб заслужыць пэўную пашану перад богам ураджаю, які прыходзіць разам з вясной. Пазьней гэты абрад злучыўся разам з адзнакай абрадаў рэлігійных (затыканьне крыжыкаў у куцьцю, сена пад абразамі і г. д.).

Як вядома, нашы продкі яшчэ ў паганскую пару свайго жыцьця мелі шмат багоў. Кожная зьява (гром, усход і заход сонца, дождж, ураджай, голад, мор...) мела свайго кіраўніка-бога. Гэтых усіх багоў трэба было неяк шанаваць і паважаць, каб не натварылі яны ліха беднаму безабароннаму тагочаснаму чалавеку. Пазьнейшая рэлігійная плынь не змагла цалкам выкараніць паганскіх чыста народных забабонаў. Яны толькі часткай перамяшаліся з царкоўнымі абрадамі.

### Каму патрэбна казка аб нараджэньні бога.

Да таму, каму патрэбен і бог. Бог, вучаць папы, усім на зямлі правіць, усё, што робіцца,—робіцца па яго жаданьню. Паўставаць супроць яго няможна. На зямлі трэба ўсё цярпець, затое будзе добра на небе.

Значыцца, калі пан і цар зьдзекуюцца з беднага селяніна і рабочага, дык паўставаць супроць іх ня можна, бо гэта-ж будзе супроць бога.

Нам бог непатрэбен. Аб гэтым цяпер ведае кожны селянін і кожны рабочы. Мы цяпер нікому *нічога ня верым,* а ўсё хочам *знаць.*

1-ая друкарня Бел. Дзярж. Выд. Зак. № 848. У ліку—3200 экз. Галоўлітбел № 262.

ЦАНА 12 кап.



## Я УЖО РАЗЬВЯЗАУ ГЭТЫ РЭБУС!




Усякі той, хто яго разьвяжа, будзе чытаць паўгода часопіс „Беларускі Піонэр“. Хто ня зможа разьвязаць адзін—разьвяжэце колектыўна: атрадам ці школай.